PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 52 (2067) ГОД XL БЕЛАСТОК 24 СНЕЖНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



Фота Віктара Волкава

*Алег Латышонак*

## Бежанства

Мая бабуля выхавалася над Волгай, у Саратаўскай губерні. Сяло, у якім жыла некалькі гадоў разам са сваімі бацькамі, называлася Разбойшчына. Тут калісь была схавань праслаўтага атамана Сценькі Разіна. Расказы бабулі пра жыццё ў Разбойшчыне сталі часткай маёй памяці. Пэўна ж таму я так палюбіў песню „Волга, Волга мать родная" і доўга марыў, каб сплысці па гэтай рацэ параходам.

У Разбойшчыну бабуля папала ў час бежанства. Мала хто з беларусаў, якія нарадзіліся на Беласточчыне да І сусветнай вайны, не быў у бежанстве. Тым не менш, маладое пакаленне, нават ведаючы, што дзяды-прадзеды жылі некалькі гадоў у глыбі Расіі, не ведае ўжо гэтага рускага слова: бежанства.

Вельмі добра, што Музей у Бельску-Падляшскім (аддзяленне Акруговага музея ў Беластоку) арганізаваў сумесна з Беларускім гістарычным таварыствам выстаўку „Bieżeństwo. Nieznany exodus 1915—1921".

Задума гэтай выстаўкі (і яе здзяйсненне) належыць Дарафею Фёніку, маладому, але ўжо вядомаму сваімі публікацыямі даследчыку нашай мінуўшчыны. Дарафей, студэнт другога курса музеязнаўства ў Мінску, раздабыў экспанаты не толькі на бацькаўшчыне, але і ў беларускай сталіцы, перш за ўсё ў літаратурным Музеі Максіма Багдановіча (вялікі паэт дзейсна займаўся дапамогай бежанцам).

Цэнтральным пунктам і аздобай выстаўкі з'яўляецца воз, пакрыты будай з палатна. На такіх вазах летам 1915 года нашы продкі пакінулі свае родныя мясціны і рушылі на ўсход.

Шматлікія фотаздымкі і дакументы паказваюць этапы бежанства: выбух І сусветнай вайны, падпальванне вёскі казакамі (расейцы, адступаючы перад немцамі, прымянялі тактыку „спаленай зямлі"), пакутніцкі шлях уцёкаў на ўсход, калі людзі мерлі ад голаду і эпідэміяў; рассяленне бежанцаў у Расіі, дапамогу з боку расійскіх (у тым ліку і беларускіх) дабрачынных устаноў і арганізацый і, нарэшце, вяртанне на бацькаўшчыну, дзе бежанцаў чакалі чарговыя пакуты на развалінах родных сялib.

Колькасць беларусаў, якія былі ў бежанстве, вагаецца паводле розных даных ад паўтара мільёна да двух. Колькі было бежанцаў з Беласточчыны — пакуль што ніхто не ўстанавіў. Вядома толькі, што амаль усе. У Бель-

*Працяг на стар. 5*

*Эва Сцепанюк*

## Штыкецiны, помста, кулакі і... шчасце

Самое здарэнне прайшло незаўважальна. Ігнат Стасюк, як толькі дайшоў да памяці, пабачыў на сваёй вопратцы кроў. Падняўся з зямлі, працёр закрываўлены твар і фуфайку ды пайшоў званіць у паліцыю. Пасярэдзіне жвіраванай дарогі ляжаў яго ровар „Урал" і амшэлая штыкеціна. У М., падсакольскай вёсачцы, бабы даілі якраз кароў, а мужыкі хавалі прывезеную з поля бульбу.

Стасюк даплёўся да пенсіянеркі, у якой быў адзіны на ўсю вёску тэлефон. Пакруціўшы ручной „корбкай" старадаўняга апарата, адчайна прахрыпеў у трубку:

— Ало... Паліцыя! Ратуйце, а то дабіваюць ужо ў сваёй вёсцы!

* * *

Тым часам Дарафей Ляскевіч памыў закрываўленыя гумоўцы, накінуў свежы летнік, прычасаўся і рашучым крокам пайшоў таксама званіць у паліцыю.

— Ужо едуць! — абвясціў Ляскевічу насмешліва Стасюк перад хатай пенсіянеркі. Разам з ім стаяў солтыс, які толькі што дапамагаў абмыцца з крыві Стасюку. У яго руках была яшчэ бляшаная квартачка з чырвоным сэрцайкам. Такі ход падзей ашарашыў Ляскевіча. *Рольнік* брыдка вылаяўся і рушыў паспешліва на загуменне.

— Стой, браток! — наказаў Ляскевічу солтыс, моцны мужык з вялікімі далонямі. Ляскевіч паслухаўся. Солтыс схапіў яго за каўнер, прывёў да плота і прыціснуў сваім магутным целам.

— Не гарачыся, браток! — параіў ён Ляскевічу і трымаў яго так з паўгадзіны, аж прыехала паліцыя. Усе мужчыны пахлі троxдзённым перапоем.

А калі Ляскевіча і Стасюка павезлі ў Саколку, у М. стала ціха-ціха. Усім прыгадаліся добрыя часы, калі Стасюка трымалі ў турме.

* * *

Ігнат Стасюк, 44-гадовы кавалер — селянін з небывалай крымінальнай „картатэкай":

— Ляскевіч чакаў нагоды, каб мне адпомсціць. Запыніў мне дарогу, скінуў з ровара і пачаў лупіць штыкецінай. Усяго не помню. Калі я ачнуўся, Ляскевіч „чысціў" мае кішэні. У кашальку былі ўсе мае грошы за ячмень — мільён трыста. „Што ты, к..., робіш?!", — крыкнуў я Ляскевічу. А ён гумоўцам наступіў мне на твар.

Дарафей Ляскевіч — прыкладны селянін, бацька і гаспадар.

— Дзеці гналі кароў, а я выйшаў запыніць жывіну на панадворак. Бачу, Стасюк проста на мяне едзе. Я паспеў адскочыць, а ён паляцеў на вуліцу. На гэтым не скончылася. Стасюк сарваўся і з кулакамі кінуўся на мяне. Я, зразумела, адапхнуў яго ад сябе. Стасюка не кранаў болей. Відаць, паляцеў ён на свой ровар і параніўся. Што ж, праўду кажучы, я меў многа шчасця. Стасюк быў п'яны і абяссілены. Божа, усе ў вёсцы ведаюць, што як Стасюк па-цвярозаму прычэпіцца, то і смерці спадзявайся. А што мяне біць? Адны косці і скура. Па-мойму, Стасюк праследуе нашу сям'ю. У маладосці забіў ён першага мужа маёй жонкі. Гэта быў, на дадатак, ягоны дзядзька. Адкуль Стасюк выйшаў з турмы, усё да нас чапляецца. Апошнім часам паламаў нам плот, падпаліў лес. Ехаў фурманкай, а мы везлі жвір, і Стасюк сапхнуў нас у роў, спецыяльна. Дзяцей і жонку раварам „наязджае". А калі не ўдаецца, то лаецца і аплёўвае маю сям'ю. Гэты чалавек нават не падумае, што пакрыўдзіў маю жонку і двое асірацелых дзяцей.

* * *

Жыхары М. яшчэ раз перажылі кашмарныя хвіліны, калі следчы дапытваў пра здарэнне. Пакрыўджанага Стасюка не шкадавалі і, калі б маглі, найхутчэй прагналі б яго са сваёй вёскі. Каб бараніць Ляскевіча, напісалі пракурору ліст.

— Ужо ў школе Стасюк меў паганую славу. Ніколі не меў падрыхтаваных урокаў, здзекаваўся над слабейшымі і жывёлай. Мала таго, калі находзіла на яго „хваля", біў і праследаваў дырэктара! У часы маладосці Стасюк быў вядомым разбойнікам. Людзі казалі, што пасля смерці сваёй маці „разлічваўся" з бацькам — ставіў яго пад сцяну, здзекаваўся, а нават абяцаў яго задушыць. Пазней Стасюка судзілі за скандал з вясковым хлопцам. Пасля года зноў пасадзілі яго за бойкі. Але гэтага было мала. Урэшце забіў брата сваёй маці. Асірaціў дзяцей і сваю цётку, але вінаватым не пачуўся. Тады яго зачынілі на шэсць гадоў. Пазней усё паўтаралася — бойкі, аплявухі, інтрыгі. Першай ахвярай стаў гаспадар, які арандаваў зямлю Стасюка. Напаў яго ноччу, паламаў дзверы, напалохаў дзяцей, а арандатару пакрышыў рэбры. Ледзь няшчаснага адратавалі.

— Быццам і гэтага мала, — наракалі аднавяскоўцы, — усё жыццё гандлюе гарэлкай: рускай, самагонкай, усялякай. Адны плацілі яму грашыма, іншыя, бяднейшыя — збожжам, бульбай, яйкамі. Бо наш Стасюк такі гаспадар, што не арэ і не сее. Жывіну

*Працяг на стар. 3*

*Чытачам „Нівы", якія Каляды святкуюць паводле новага стылю, жадаем спакойнага святочнага адпачынку.*

*Рэдакцыя*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W istocie demokracja może uchodzić za sensowną formę rządów jedynie po spełnieniu pewnych warunków. Demokracja sprawdza się tam, gdzie istnieje silna, tradycyjna rodzina, gdzie ludzie są właścicielami i odpowiadają sami za siebie. W społeczeństwie zdominowanym przez niewolników, gołotę, pracowników najemnych, utrzymanków państwa opiekuńczego, niezdolnych oprzeć się propagandzie, demokracja może dawać skutki straszne — równie straszne, jak na Białorusi i w Polsce.*

*Gazeta Polska, nr 48*

* * *

*Można więc mówić o nowej ukraińskiej grupie etnicznej — białorusach, —* піша лідэр бельскіх украінцаў Ежы Гаўрылюк.

*Над Бугом і Нарвою, н-р 5*

Як можна было здагадацца, чарговы нумар гэтага „ўкраінскага" часопіса поўнасцю прысвячаецца антыбеларускай дэмагогіі. Пастаянныя атакі на беларусаў з боку бельскіх украінцаў палякі называюць: „umacnianiem różnorodności kulturowej Białostocczyzny". Гэтую „różnorodność kulturową" замацоўваюць яны ахарактарызоўваючы, напрыклад, беларускіх публіцыстаў — галоўных сваіх ворагаў — пры дапамозе такіх слоў як: „zacietrzewienie i agresja", „kłamstwa powtarzane tysiąc razy", „brud i podejrzenie". У гэтым кантэксце прапрацаваны тэзіс Гаўрылюка з'яўляецца вялікім дасягненнем украінскай навукі і этыкі на „Підляшшы", за што праўдападобна атрымае ён узнагароду ваяводы, або прынамсі бельскага войта.

* * *

*Nowa wersja „suzuki maruti" kosztuje ok. 8 tys. zł. Ustalone przez rząd cła i podatki sprawiają, że na naszym rynku ceny tych modeli wynoszą 21—30 tys. zł. Różnicę stanowią cła i podatki. Dzięki temu rodzimi producenci motoryzacyjnego złomu mogą w nieskończoność windować ceny, np. malucha i poloneza.*

*Wprost, nr 48*

* * *

*W Hajnówce w czasie obchodów święta 11 Listopada powiewały czerwone flagi —* а бачыў іх карэспандэнт

*Gazety Polskiej (nr 47).*

* * *

*W Polsce skraca się przeciętna długość życia mężczyzn. Optymiści powiadają, że to dobrze — dominują przecież kobiety, młodzież i dzieci. Czasem jednak odnosi się wrażenie, że w Polsce w ogóle nie ma mężczyzn. Są tylko pederaści, konformiści, oportuniści, agenci i aferzyści.*

*Najwyższy Czas, nr 47*

* * *

*Z 15 do 22 mln starych złotych wzrósł ryczałt posłów zawodowych. Oprócz ryczałtu poseł otrzymuje także nie opodatkowaną dietę, przysługującą wszystkim wybrańcom narodu w wysokości 11 mln zł. miesięcznie, a także 34 mln zł. na prowadzenie biura poselskiego.*

*Gazeta Współczesna, nr 231*

За два гады праўдападобна колькасць кандыдатаў на пасолў Сейма III Рэчы Паспалітай будзе лічыцца ў дзесяткі тысяч.

* * *

*Weźmy na przykład Unię Wolności: jeszcze niedawno pluła na Wałęsę, „olszewików" i „oszołomów", sama ochraniając komunistyczną nomenklaturę — a niedawno w panice nawoływała, żeby głosować na Wałęsę.*

*Cóż, ladacznice z zasadami bywają głównie w kiepskiej literaturze rozmaitych postępowców, w życiu mamy najczęściej do czynienia z kurwami bez zasad. Sprzedajne elity prostytuują się i biorą jurgielt w postaci zachodnich stypendiów; albo synekuralnego handlu z Rosją z państwową gwarancją... Czasami odnosi się wrażenie, że Polską rządzą nawet nie przygłusi impotenci, ale dzieci, w dodatku przedwcześnie zepsute.*

*Najwyższy Czas, nr 47*

* * *

*Za zgodę na zjednoczenie Niemiec Bonn zapłaciło 192 mld marek Rosji i innym krajom. Polska, Czechy i Węgry otrzymały łącznie 51 mld marek. 110 mld popłynęło do byłych republik Związku Sowieckiego. Haraczu za zgodę na powiększenie Niemiec zażądał także Zachód. 22 mld marek przekazano na sfinansowanie międzynarodowych operacji wojskowych, takich jak w czasie wojny w Zatoce Perskiej.*

*Gazeta Współczesna, nr 230*

* * *

*Dziewczętom stosowanie przemocy sprawia większą przyjemność niż chłopcom. Dziewczęta zadają ból z olbrzymią determinacją i bywają bardziej brutalne niż chłopcy.*

*Wprost, nr 48*

Што робіцца з гэтымі дзяўчаткамі?

* * *

*Od mężów stanu w Polsce wymaga się prawdy i odwagi.*

*Polityka, nr 49*

Так, так, безумоўна.

* * *

*Krętaczyna, oszust i kłamczuch zdałby cynicznie egzamin magisterski i obronił dyplom. Człowiek wolny macha ręką na takie sprawy. Czy to nie jest piękne i szlachetne, —* пытае Станіслаў Тым.

*Wprost, nr 50*

Згодна з духам часу адказваем: так!

* * *

*Prawosławni biskupi zostali wypędzeni z Chorwacji i tej części Bośni, która znajduje się pod kontrolą Muzułmanów. Gdy patriarsze Serbii Pawłowi zaproponowano, by zaakceptował pomysł wypędzenia katolickich biskupów z Serbii, napotkano na zdecydowany sprzeciw — „oko za oko" to Stary Testament. Jesteśmy Cerkwią Nowego Testamentu, — odparł zwierzchnik Serbskiej Cerkwi Prawosławnej.*

*Przegląd Prawosławny, nr 12*

* * *

*Dwóch dwudziestoletnich mężczyzn zakatowało w Sokółce chłopca z jednej z podsokólskich wsi. Kilka dni wcześniej zabójca został wypuszczony z zakładu karnego za dobre sprawowanie.*

*Gazeta Współczesna, nr 237*

Ёсць нейкая гарантыя, што праз год ці два не заб'е наступнага чалавека, але калі пасля гэтага часу выпусцяць яго за „dobre sprawowanie", пан забойца будзе патрабаваць новай ахвяры. Пан забойца будзе прымаць удзел у парламенцкіх выбарах у 1997 г. Хто ведае, можа стане кандыдатам у сенатары.

# З мінулага тыдня

**Вярхоўны Суд** прызнаў правамоцнасць прэзідэнцкіх выбараў. Цырымонія прынящця прысягі ад прэзідэнта-электа **Аляксандра Кваснеўскага** перад дэпутатамі Сейма і Сената адбудзецца 23 снежня г.г.

**Аляксандр Кваснеўскі** заявіў, што з чыстым сумленнем дасць прысягу перад уступленнем на пост прэзідэнта, а маральнае права для гэтага далі яму выбаршчыкі, дзякуючы якім выйграў абодва туры выбараў. Перапрасіў ён сваіх выбаршчыкаў за эмоцыі, якім яны падвяргаліся ў часе выбараў. Наконт сваёй адукацыі прэзідэнт-элект сказаў: „Я — вельмі добра адукаваны чалавек". Прыгадаем, што А. Кваснеўскі ўвёў выбаршчыкаў і Дзяржаўную выбарчую камісію ў зман, калі заявіў, што мае вышэйшую адукацыю; у сапраўднасці не напісаў ён магістэрскай працы і быў у 1978 г. выключаны з ліку студэнтаў.

**Самаўрадавы сеймік і Згуртаванне войтаў і бурмістраў Беластоцкага ваяводства** запатрабавалі ад дзяржаўных улад павелічэння асветнай субвенцыі на будучы год з 6,6% да 8% планаваных даходаў дзяржаўнага бюджэту. З пачаткам 1996 г. самаўрады абавязаны пераняць школы на сваё ўтрыманне. Аказваецца, што пятнаццаці гмінам, з ліку 55 у ваяводстве, прыйдзецца далажыць да прапанаванай міністэрствамі нацыянальнай адукацыі і фінансаў субвенцыі больш за 40%. Войты і бурмістры адзначылі, што на Беласточчыне працуе вельмі многа малых школ (да 50 вучняў) і ва ўмовах фінансавых складанасцей можа дайсці да іх ліквідацыі.

**Калядная вячэра** ў Камедульскім кляштары на возеры Вігры, арганізаваная ўжо чацвёрты раз Раённым цэнтрам культуры і спорту ў Сувалках, адбылася 17 снежня. Удзельнічала ў ёй каля 200 чалавек — самадзейнікаў і дзеячаў культуры. Польскія гаспадары запрасілі на мерапрыемства цыганоў, літоўцаў, украінцаў, немцаў, курпяў, а таксама беларусаў і кашубаў (гэтых апошніх упершыню). Пасля традыцыйнай вячэры сабраныя спявалі калядкі на сваіх мовах.

**Беластоцкія дні Заменгафа** — трохдзённае мерапрыемства ў гонар 136 гадавіны з дня нараджэння творцы мовы эсперанта — арганізавала Беластоцкае таварыства эсперантыстаў. У Клубе міжнароднага друку і кніжкі адкрылася з гэтай нагоды выстаўка выданняў на мове эсперанта. Адбыліся таксама сустрэчы дзеячаў эсперанцкага руху з Беларусі, Літвы, Нямеччыны, Вялікабрытаніі, Францыі і Ірака з польскімі калегамі. Падобныя ўрачыстасці праходзілі таксама ў Вене і Коўне.

**Крэсы'95** — так называўся IV Дэкламатарскі конкурс для палякаў з замежжа, які арганізавалі ў Беластоку Таварыства тэатральнай культуры і Таварыства „Wspólnota Polska". Удзел у ім прыняло каля 50 палякаў з Літвы, Беларусі, Украіны, Расеі, Латвіі, Эстоніі і Чэхіі.

**У Беластоцкім ваяводстве** беспрацоўе ў лістападзе павысілася на 0,8% і пад канец гэтага месяца склала яно 44 245 чалавек (у тым ліку 23 797 жанчын). Права на дапамогу па беспрацоўю не маюць 18 340 чалавек, што складае 41% ад агульнай колькасці беспрацоўных.

**Пачалася мадэрнізацыя рэтранслятара ў Крыніцах** каля Беластока, дзякуючы чаму ўсе жыхары Беласточчыны атрымаюць магчымасць прымаць на сваіх тэлевізарах II праграму Польскага тэлебачання. У выніку мадэрнізацыі рэтрансляцыйны цэнтр атрымае новую мачту-антэну вышынёю ў 323 метры, якая будзе самым высокім аб'ектам у паўночна-ўсходняй Польшчы. Заканчэнне мадэрнізацыі прадугледжана на IV квартал 1996 г.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Беларусы выказаліся за дэмакратыю.
- Як ваяводская ўлада бачыць будучыню беларускай культуры.
- Чаму Мікалаю Уюну не падабаецца „Ніва".



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Парламент усё-такі будзе

10 снежня адбыўся II тур парламенцкіх выбараў. У Вярхоўным Савеце 260 месцаў. На вясенніх і асенніх выбарах сёлета ў яго абрана усяго 139 дэпутатаў. Правамоцным ён можа стаць пры наяўнасці не менш 2/3 ад агульнай колькасці дэпутатаў, гэта значыць 174 чалавекі. Неабходна было давыбраць па крайняй меры яшчэ 35 дэпутатаў. 10 снежня выбары пачаліся ў 119 акругах і адбыліся ў 70 з іх, у выніку чаго было выбрана 59 дэпутатаў, а гэта азначае, што Беларусь на сёння ўжо мае працаздольны парламент.

### Юбілей СНД

У снежні споўнілася чатыры гады, як была створана Садружнасць Незалежных Дзяржаў. Чатыры гады таму ў белавежскіх Віскулях кіраўнікі трох славянскіх рэспублік падпісалі дакументы, якія паставілі апошнюю кропку ў гісторыі Савецкага Саюза. Пачаўся адлік часу новай супольнасці суверэнных дзяржаў. На прэс-канферэнцыі з выпадку гэтай гадавіны выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня сказаў: „Адназначна ацаніць пройдзены шлях нельга. Ёсць у факце стварэння супольнасці пазітыўнае і негатыўнае. Кепска тое, што да гэтай пары не спыніўся спад вытворчасці, што аб'ём валавога ўнутранага прадукту за 1992—1994 гады ў цэлым па СНД скараціўся на 39%. За час існавання СНД прынята каля 600 пагадненняў, аднак у жыцці ўвасоблены толькі тыя, якія датычыліся разбурэння таталітарнай дзяржавы і замацавання суверэнітэтаў асобных рэспублік. Між тым парад суверэнітэтаў прынёс нямала і адмоўнага. Аслаблі пры гэтым усе інтэграцыйныя працэсы, без чаго нельга рухацца наперад. Пэўныя зрухі дзеля іх узмацнення робіцца. Многае ў гэтым плане заклікаваны здзейсніць Міждзяржаўны эканамічны камітэт".

### Мітынг з-за нявыдачы зарплаты

На Гомельскім радыёзаводзе прайшоў двухгадзінны мітынг у 34 цэху, а падставай для хваляванняў у калектыве была шматмесячная затрымка выдачы заработнай платы. Адміністрацыя не разлічылася з рабочымі яшчэ за жнівень. Патрабуючы на мітынгу зарплату за мінулыя месяцы, прадстаўнікі працоўных калектываў удакладнілі, што трэба правесці яе індэксацыю з улікам росту цэн на прадукты харчавання і жыллёва камунальныя паслугі.

### Кока-Кола заваёўвае рынак

Мяркуючы па ўсім, Кока-Кола палічыла мэтазгодным пашырыць і ўмацаваць сваю прысутнасць на беларускім рынку шляхам стварэння ў наваколлі Менска дыстрыбютарнага цэнтра і завода па вытворчасці сваёй прадукцыі. Для гэтых мэтаў кампанія плануе набыць ва ўласнасць участак зямлі каля дваццаці гектараў у раёне прамысловага вузла Калядзічы. У выпадку станоўчага вырашэння прэзідэнтам рэспублікі пытанняў, звязаных з продажам зямлі ва ўласнасць замежным інвестарам, не толькі Кока-Кола, але і шэраг іншых замежных заяўнікаў змогуць стаць уладальнікамі зямельных надзелаў і забяспечыць прыток інвестыцый у беларускую эканоміку.

### Фальк у Менску

З 6 па 10 снежня ў менскім кінатэатры „Перамога" адбылася рэтраспектыва мастацкіх фільмаў вядомага польскага кінарэжысёра Фелікса Фалька. Аб падрабязнасцях творчасці можна было даведацца непасрэдна ад яго самога. Сустрэчы з кінамастаком праходзілі ў гэтым жа кінатэатры 9 і 10 снежня. Мерапрыемства арганізавала Пасольства Польшчы ў РБ.

### Міністр contra гвалтаўнік

Першы намеснік міністра замежных спраў Беларусі Валерый Цапкала прадухіліў у Менску згвалтаванне саракагадовай жанчыны. Знаходзячыся ноччу ў сваёй кватэры, дыпламат пачуў крыкі аб дапамозе, якія даносіліся з пад'езда. Ён выбег на лесвічную пляцоўку і змог абараніць жанчыну ад замаху 18-гадовага гвалтаўніка. Нарад міліцыі, які аператыўна прыбыў на месца здарэння, затрымаў юнака. Гвалтаўніку пагражае ад 3 да 7 гадоў зняволення.

### Навагодняе тэлесвята

Беларускае прадстаўніцтва Міждзяржаўнай тэлекампаніі „Мір" разам з Нацыянальным тэлебачаннем пачало падрыхтоўку да здымкаў начной праграмы першага дня Новага года. Будзе гэта тэлесвята, разлічанае на чатыры гадзіны вяшчання. Ідэя перадачы належыць кіраўніку студыі „Сябры" Анатолю Ярмоленку. Акрамя вядомых і любімых акцёраў, у перадачы прымуць удзел госці з-за мяжы — дыпламаты. Плануецца, што з навагоднімі віншаваннямі і пажаданнямі да беларускіх тэлегледачоў звернецца прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

### Небяспечныя цацкі

Як толькі спускаюцца прыцемкі, на вуліцах і ў дварах пачынаюць гучаць выбухі. Пятарды, ракеты і іншыя піратэхнічныя сродкі — новае хобі падлеткаў. Распараджэннем Менскага гарадскога выканаўчага камітэта з 11 снежня на тэрыторыі сталіцы рэспублікі забараняецца гандаль гэтымі небяспечнымі цацкамі. Забаронена таксама ўключаць піратэхнічныя сродкі ў навагоднія і іншыя святочныя падарункі.

*8 снежня ў Сопаце адбылася Канферэнцыя дэмакратычных прафсаюзаў Беларусі, Літвы і Украіны. Удзельнікі сустрэчы звярнуліся ў нашу рэдакцыю з просьбай апублікаваць іх зварот, які накіравалі яны да прафсаюзаў усяго свету ў справе сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь.*

## ЗВАРОТ
### удзельнікаў Сопацкай Канферэнцыі дэмакратычных прафсаюзаў Беларусі, Літвы і Украіны да дэмакратычных прафсаюзаў

*Сопат, 8 снежня 1995 г.*

**Браты і сёстры!**

Ход падзей у Рэспубліцы Беларусь выявіў тэндэнцыі, якія пагражаюць дэмакратычным прафсаюзам Усходняй Еўропы. Забарона дзейнасці Свабоднага прафсаюза Беларусі, арышты дзеячаў, адкрытая атака на дэмакратычныя дзяржаўныя інстытуты пад акампанемент красамоўных і цынічных выказванняў кіраўніка дзяржавы сведчаць, што ў цэнтры Еўропы ўкараніўся зародак дыктатарскага рэжыму, у якога ярка выяўляецца свой карычневы колер.

Маладая дэмакратыя шматпакутнай Беларусі, яе дэмакратычныя прафсаюзы цяпер не маюць сілы адзінока супрацьстаўляцца нахабнаму, ненармальнаму, парушаючаму ўсялякія міжнародныя нормы атаку фашызму, народжанаму ў выніку агоніі камуністычнай сістэмы.

Мы, удзельнікі канферэнцыі дэмакратычных прафсаюзаў Беларусі, Літвы і Украіны, звяртаемся да дэмакратычных прафсаюзаў усіх краін з заклікам перашкодзіць развіццю падзей паводле горкага сцэнарыя, вядомага нам з гісторыі, і аказаць дапамогу і ўсебаковую падтрымку Незалежнаму прафсаюзу Беларусі.

Удзельнікі канферэнцыі:

С. Іўцын, С. Абадоўскі, В. Захарчанка, В. Ялфімаў, С. Крывальцэвіч, М. Касач, Н. Новік, Т. Егіян, В. Усовіч (Рэспубліка Беларусь); В. Байдакавічус, С. Коцій, Ч. Кулешыус, С. Жабене, С. Жукоўская (Літва); Ю. Курыла, Л. Пацыкайла, О. Самафалава, В. Шалудзько, В. Берагавой, А. Калінін, Л. Шэйніна, Н. Батоўская (Украіна).

## Свята чыгуначнікаў

Працаўнікі дзяржаўнай чыгункі, як і іншыя групы рабочых, адзначаюць сваё прафесіянальнае свята. Пры камуне называлі гэта Днём чыгуначніка і прыпадаў ён на другую нядзелю верасня. На чаромхаўскай станцыі святкаванні працягваліся два дні. Ужо напярэдадні, у суботу, арганізаваўся святочны вечар. Кожнаму працаўніку выплачвалася „трынаццатая" зарплата. Выдатнікам уручаліся ганаровыя граматы і значкі „Перадавы чыгуначнік". Начальнікам і актыўным грамадскім дзеячам прысвойваліся нават дзяржаўныя ўзнагароды. У суботу і нядзелю адбываліся танцы.

Зараз у святкаваннях нешта адмянілася. Няма „трынаццатай" зарплаты. Ужо трэці год чыгуначнікі адзначаюць сваё свята ў лістападзе, а не, як даўней, у верасні. Гэта таму, што чыгуначная „Салідарнасць" прызнала сваёй апякункай св. Кацярыну. Таму і зараз свята называецца не Дзень чыгуначніка, а проста Свята чыгуначніка і адзначаецца ў дзень патрона.

А як сёлета святкавалі чарамшукі? У суботу 25 лістапада 1995 г., у мясцовым ГОКу, сабралася шмат жыхароў пасёлка і навакольных вёсак. Зала была запоўнена да апошняга месца.

З прывітальным словам выступіў начальнік Прадпрыемства рухомага саставу Анатоль Аніщчук. Пасля кароткага дакладу начальніка Чаромхаўскай станцыі былі ўручаны значкі „Перадавы чыгуначнік".

У мастацкай частцы выступіў мясцовы духавы аркестр, кабарэ „Пака" з Яленяй-Гуры, а завяршыў канцэрт цыганскі ансамбль з Беластока.

Пасля пачалася танцавальная вечарына. Як мне сказала кіраўнік мясцовага ГОКу Тамара Кердалевіч, у мерапрыемстве прыняло ўдзел каля трохсот чалавек. Прысутным найбольш спадабалася выступленне кабарэ „Пака" з Яленяй-Гуры. Можна сказаць, што чаромхаўскія чыгуначнікі правялі сваё свята культурна і вясёла.

**Уладзімір Сідарук**

## Зіма...

... — найбольш халодны перыяд года. У Паўночным паўшар'і гэта час паміж 22 снежня (зімовае сонцастаянне) і 21 сакавіка (вясеннняе раўнадзенства). Каляндарная зіма ўключае снежань, студзень, люты.

На Беласточчыне пачаткам зімы як кліматычнага сезона лічаць дату ўстойлівага пераходу сярэднясутачнай тэмпературы паветра праз 0°С у бок паніжэння. Гэта супадае з перыядам першага ападання ігліцы ў лістоўніцы. За канец прыняты пераход тэмпературы паветра праз 0°С у бок павышэння, што супадае з пачаткам руху сокаў у бярозы. Зіма цягнецца ў сярэднім 105 дзён.

У Белавежскай пушчы найніжэйшую тэмпературу зафіксавана зімой 1928/29 года — дасягнула яна -40°. У студзені 1956 года ў Беластоцкім краі запісалі таксама -40°С.

Трывалае снежнае пакрывала, таўшчынёй у 20—25 см, паяўляецца ў снежні і — бывае — ўтрымліваецца да другой палова сакавіка, а ў лясах Белавежскай пушчы ляшчэ на 10—15 дзён даўжэй.

Цыклоны з Атлантычнага акіяна прыносяць вільготнае марское паветра, а яно выклікае частыя адлігі, сырое пахмурнае надвор'е. У апошні час здараюцца зімы маласнежныя, як мяркуюць, у выніку атмасферных парушэнняў вынікамі чалавечай дзейнасці.

*(апр. яц)*

**Фота з архіва**



## Штыкецiны, помста, кулакі і... шчасце

*Працяг са стар. 1*

выпасае на нашых лугах, крадзе са стагоў сена, а калі і нехта зверне яму ўвагу, то зараз ідуць у рух кулакі. Увесь час усіх чапляецца.

Калі едзе роварам, то спецыяльна наязджае на пешахода. І, папраўдзе, абрыд аднасяльчанам Стасюк як горкая рэдзька. Уся вёска цешыцца, калі ён у турме.

Ліст-пратэст вяскоўцы накіравалі пракурору. Падпісалі яго ўсе дарослыя жыхары М., а солтыс прыставіў сваю пячатку.

* * *

Раённы суд у Саколцы не здолеў разблытаць справу Ляскевіча. Усе сабраныя матэрыялы супярэчылі лагічнаму ходу справы.

Факты — адарваная штыкеціна, пакража грошай, страта здароўя недзе загубіліся, заблыталіся. Астаецца адно пытанне — што было б, калі б першы пазваніў у паліцыю Ляскевіч.

Над гэтым, як і шмат іншымі невядомымі пытаннямі працуе зараз ваяводская пракуратура.

**Эва Сцепанюк**

P.S. Імёны і прозвішчы герояў зменены.

## Нядрэнны год

Сёлета ў Нарваўскай гміне многае будавалі ды рамантавалі. Між іншым закончылі пабудову водапровада з Крыўца ў Гарадзіска цераз Падбаравіска і Прыбудкі. У гэтым годзе тэлефоны атрымалі жыхары Іванкоў ды чатырох іншых невялічкіх вёсачак: Брушкоўшчына, Качалы, Скарышэва і Граматнае.

Асфальт паклалі на вуліцы Агародавай у Нарве ды на вясковай доўгай вуліцы ў Храбустоўцы. Апрача таго пабудавалі стаянку аўтамабіляў каля Гмінай управы ў Нарве.

Адрамантавалі шмат дарог: першнаперш з Агароднікаў у Цісы, з Васькоў у Падваські, з Рэпіскаў ва Уснаршчыну, з Уснаршчыны ў Кавэлу, з Іванкоў у Такароўшчыну ды з Ласінкі ў напрамку бліжэйшага тамашняга прысёлка, а таксама адрэзкі дарог з Пухлаў у Сацы і з Рыбакоў у Граматнае.

У 1955 годзе гмінным уладам удалося адрамантаваць 12 міні-пачакальняў на аўтобусных паўстанках ПКС, ды яшчэ будынак асяродка здароўя ў Трасцянцы і пажарнае дэпо ў Ласінцы. Сёлета аддалі ў карыстанне гасцініцу ў самой Нарве.

Варта дадаць, што нарваўскія гмінныя ўлады аддалі Праваслаўнаму брацтву будынак былой школы ў Адрынках.

**Янка Целушэцкі**

## Аброк

— Каб ён больш пільнаваў гаспадаркі чым тэлевізара, не стаў бы такім бедалагам — гаворыць пра А.Б. суседзі.

А.Б. любіў сядзець перад шкляным экранам тэлевізара і глядзець замежныя фільмы. Там людзі хадзілі па мармуровых падлогах, ездзілі раскошнымі лімузінамі, купаліся ў басейнах... А тут, калі чалавек выходзіў на падворак — глядзець не хацелася: клуня з працякаючым дахам, хлявы з гноем, нават каля хаты нельга было прайсці, каб не наступіць на курыны памёт. Абрыдла яму гэтакая вясковая паўсядзёншчына і захацелася яму таксама зажыць, як замежныя буржуі. У тэлевізары не толькі паказвалі, але і проста падказвалі, як гэта зрабіць: нямала наглядзеўся гангстэрскіх фільмаў ці наслухаўся пра прушкаўскую мафію, пра бомбы, шантаж, нядоімкі. Рашыў дзейнічаць.

Далёка не шукаў: на прыцэл узяў свайго суседа. Папраўдзе нічога варожага да яго не адчуваў, от можа крыху бескарыслівай толькі зайздрасці. Вырваў са сшытка лісток, узяў у левую руку ручку і напісаў:

„Тэрмінова! Канец свету блізкі! У аўторак закапай 50 мільёнаў пад стоўбікам кіламетр ад Прахашоў. Гэта аброк для мафіі. Жыццё тваіх блізкіх вісіць на валаску. Нельга паведамляць ні паліцыю, ні нікога другога. Калі хто даведаецца, першай згіне твая ўнучка, а пасля спалім будынкі. Нас ёсць больш!"

А.Б., напісаўшы ананім, запрог каня і паехаў з лістом у горад. Каля ратушы апусціў канверт у паштовую скрынку.

Па суседу праляцелі дрыжыкі, калі на другі дзень адкрыў ліст. Праз момант, схамянуўшыся крыху ад перапуду, падумаў: „Вёска спакойная, вясёлая, гэта не можа быць праўдай". Паехаў на пастарунак і паказаў ліст. Паліцыянт двойчы ўважна прачытаў яго, узяў чырвоны фламастэр і, як у школе, падкрэсліў памылкі.

— Хіба нямнога класаў закончыў гэты наш мафіозі, — пракаментаваў. — Трэба палажыць у шкляную банку крыху парэзанай паперы, закручанай у аўтэнтычны мільённы банкнот і пакласці ў назначанае месца.

У аўторак паліцыянты з ларнетамі заселі ў сховішчах у старой клуні і ў маладняку.

А.Б. нервова назіраў за суседам. У вызначаны час сеў на веласіпед, павесіў кошык на руль і выехаў быццам бы ў грыбы. Каля згаданага стоўбіка не затрымоўваўся. Паліцыянты амаль, аднак, не палопалі ад смеху, калі ён, выцягнуўшы, бы гусак, шыю, прыглядаўся да ўскапанага месца. А А.Б. вярнуўся дадому і чакаў вечара. Гэтым разам пайшоў пяшком. Убачыўшы стоўбік ад нецярплівасці аж кінуўся бегчы. Хуценька раскапаў і схапіў у рукі банку з „мільёнамі". Асляпіла яго святло ліхтарыкаў. Над ім стаялі паліцыянты.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Казімір Стаброўскі — мастак, педагог і артыст з Навагрудчыны

Імя яго ў Беларусі незаслужана забыта. Дый напісана пра яго зусім-зусім мала. Хіба толькі ў кнізе Леаніда Дробава „Живопись Белоруссии XIX — начала XX в." (Мінск, 1974 г.), дзе сам аўтар адзначае, што „в белорусской искусствоведческой литературе о К. Стабровском упоминаний нет".

Наогул, род Стаброўскіх на Беларусі даволі таленавіты і знакаміты. Адсюль выйшаў, напрыклад, археолаг, краязнаўца, гісторык, філосаф, вынаходнік, заснавальнік аднаго са старэйшых у рэспубліцы Слонімскага краязнаўчага музея Іосіф Стаброўскі. Дзед яго Віленці, сын Мацея, Стаброўскі быў рэгентам земскім, гаспадаром маёнтка „Кулікі", які за свае сродкі пабудаваў уніяцкую царкву ў Мілавідах. Маці Іосіфа Стаброўскага Людвіка была родам з князёў Масальскіх. Яе бацька Адольф Масальскі прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1863 года. За гэта Мураўёў-вешальнік саслаў яго ў нерчынскія руднікі. І родны брат маці Стаброўскага Карл Масальскі таксама ўдзельнічаў у гэтым паўстанні. Ён з'яўляўся камандзірам аднаго з атрадаў Кастуся Каліноўскага. Яго схапілі, пасадзілі ў клетку і вазілі па вуліцах Слоніма, а пасля расстралялі.

Што датычыць Казіміра Стаброўскага, дык ён быў стрыечным братам Іосіфа Стаброўскага. У свой час ён славіўся сваёй вядомасцю на ўсю Беларусь, Польшчу і Расію як мастак, артыст і педагог.

Нарадзіўся Казімір Стаброўскі ў 1869 г. у маёнтку Крупляны на Навагрудчыне ў сям'і вайскоўца. Пасля заканчэння Беластоцкага рэальнага вучылішча паступіў у Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Вучыўся сем гадоў з невялікімі, але частымі перапынкамі. З-за хваробы вачэй прыязджаў дамоў, каб падлячыцца. У апошнія гады вучобы займаўся ў майстэрні Ільі Рэпіна.

Пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў Казімір Стаброўскі працягваў вучобу ў Акадэміі Жуліяна ў Парыжы.

У канцы 1894 года наш зямляк вяртаецца на Навагрудчыну, дзе доўгі час тут жыве і працуе. Як вядомы ўжо і вопытны мастак, ён пачынае ўдзельнічаць у мастацкіх выставах у Пецярбургу, Парыжы, Мюнхене, Венецыі. За карціну „Цішыня вёскі" ў 1900 годзе ў Парыжы на міжнароднай выстаўцы Казімір Стаброўскі атрымаў сярэбраны медаль. Яго карціны „Ля раз'езда" была набыта для музея ў Мюнхене, а „Лазенкаўскі парк у Варшаве" — для Венецыянскай нацыянальнай галерэі.

Казімір Стаброўскі марыў адкрыць сваю школу прыгожых мастацтваў. І яго мара збылася. У 1904 годзе на сродкі, якія былі сабраны за кошт асабістых ахвяраванняў, у Варшаве ён адкрывае Школу прыгожых мастацтваў. На працягу шасці гадоў наш зямляк быў яе дырэктарам і выкладчыкам. Гэтая школа на той час лічылася лепшай навучальнай установай Варшавы. Выкладанне ў ёй вялося на вышэйшым прафесійным узроўні. На еўрапейскіх выставах працы вучняў Казіміра Стаброўскага заўсёды адзначаліся прэміямі. Сярод іх нямала было беларусаў.

У 1912 годзе наш жывапісец і педагог пакідае Варшаву і поўнасцю аддаецца мастацкай творчасці. Ён пачынае падарожнічаць па свеце. Быў у Турцыі, Грэцыі, Егіпце, Іспаніі, Італіі, Швецыі і многіх іншых краінах. З падарожжаў К. Стаброўскі заўсёды прывозіў новыя свае карціны, большасць якіх вылучалася лірычнасцю вобразнага ладу і пяшчотным каларытам.

У гэты час мастак пачынае працу над славутай серыяй з адзінаццаці карцін „Шэсце навальніцы". Сам Казімір Стаброўскі тлумачыў, што ён ужо тады прадбачыў у сваіх карцінах першую сусветную вайну, якая прынясе шмат гора і бяды на беларускую зямлю.

„Шэсце навальніцы" распадаецца на некалькі карцін, з якіх кожная ўяўляе сабой самастойную „сімфонію ў фарбах". Уласцівая творчасці Казіміра Стаброўскага прыгожая і змястоўная сімволіка пранікае ў іх і надае ім характар паэтычных твораў, у якіх змест пераважае над формай. Усяму цыклу, за выключэннем апошняй светлай і радаснай карціны, уласцівы змрочны, з прыцемкам тон, што таксама характэрна для твораў Стаброўскага.

Шэсце навальніцы... Над ціхімі беларускімі палямі сабіраюцца змрочныя хмары. Сонца схавалася, і ў хмарах заклубіліся злавесныя вобразы, і той, каму дадзена гэта бачыць, бачыць у іх злосны пачатак, які прыняў формы дзікіх звяроў і пачвар. А да ўрагану, які нясецца над безабароннай і змрочнай краінай, працягнуліся чыесьці ўчэпістыя кіпцюрастыя лапы... І з гучным карканнем ляцяць прадвеснікі навальніцы і чорныя груганы няшчасця.

І вось грымнуў пярун. І на магільных узгорках сталі бясконцыя чародамі маўклівыя крыжы. Цэлы лес крыжоў — Галгофа ўсяго беларускага народа. А ў хмарах зноў паказаліся драпежныя чорныя лапы страшнай пачвары, і маланка асвятляе іх.

Палымнеюць вёскі і гарады Беларусі. Гараць і гінуць у полымі вогненнага патопу скарбніцы народнай творчасці,



палацы і хаты. Запалалі помнікі даўніны, запунсавела зарывам неба над старажытным багатым горадам і паплылі жудасныя цені па вуліцах і завулках. А ў воблаках дыму ўюцца страшныя змеі. Гэта д'ябальствуюць і трыумфуюць злосныя сілы, якія сарваліся з ланцуга пад віхрам вялікай навальніцы.

І наступіць пара, калі над гаротнай краінай, над руінамі і крыжамі, панясуцца пад аблокі душы няшчасных пакутнікаў, а высока ў небе з'явіцца распятая на крыжы Справядлівасць і цень ад яе крыжа працягнецца па ўсёй краіне. А яна, засмучаная і зняважаная ворагамі, будзе ахінутая гэтым страшным ценем, і, куды не працягнецца ён, усюды стануць чорнымі спаленыя мястэчкі, гарады і вёскі.

Зняважаны, змораны сам твар беларускай зямлі. Высечаны старыя векавыя лясы. Толькі пні засталіся вакол, ды ўзвышаюцца то тут, то там маўклівыя курганы. Пуста на зямлі. Але затое там, уверсе, пануе таемнае жыццё: зборышча ўкленчаных просіць ратунку ў неба аб выратаванні ад прыгнёту бязлітасных цёмных сіл. І ўзнімаецца благаслаўлёны палец, і цёмныя курганы на апусцелай зямлі прыслухоўваюцца і да малення, і да благаслаўлення.

Узараныя і скапаныя палі пакрыліся снегам. Зямля сцішылася пад дыханнем смерці, і над бязлюднымі мёртвымі раўнінамі пануе цемра ночы і холад зімы. І маркотна ўзвышаюцца тры крыжы — помнікі брацкіх магіл. Але хутка ўжо світанне. У небе пачынае мільгацець першы прамень золаку, які іграе барвовым водбліскам на латах і збруі таямнічых вершнікаў. Там, у святлеючай вышыні, над разарванымі навальнічнымі хмарамі, гэтыя крылатыя вершнікі іграюць на чатыры бакі святла абуджальны „гейнал" — песню, якую некалі выконвалі на світанні, каб разбудзіць войска. Над мёртвай, можа быць, толькі заснуўшай краінай хутка прагучыць першы заклік вызвалення. Прачнуцца тыя, хто спаў, уваскрэснуць мёртвыя, і мільёны палымяных віцязяў з крыламі на залатых латах панясуцца на конях у апошнюю бітву з цёмнымі і злымі сіламі. Гімн абуджэння зменіцца грознай рапсодыяй нябачнай бітвы. Злыя сілы будуць пераможаны народам, навальніца пройдзе, і над вызваленай і шчаслівай краінай заззяюць вясёлка і светлая брама новага жыцця.

Такое тлумачэнне сваім карцінам даваў сам мастак. Казімір Стаброўскі, відаць, прадбачыў не толькі першую сусветную вайну, але і другую, а таксама чарнобыльскую бяду, якія перажылі і перажываюць Беларусь у сапраўдную галгофу беларускага народа.

Усё ж жах і шэсце першай сусветнай вайны мастак добра адчуў на сабе. Яго маёнтак у Круплянах быў разгромлены немцамі, а сам таленавіты жывапісец стаў бежанцам, прыхапіўшы з сабою некалькі дзесяткаў сваіх карцін. Ён прыехаў у Петраград, дзе наладзіў у Таварыстве падтрымкі мастацтваў выставу сваіх прац. Пасля яе заканчэння пераехаў у Маскву. Тут у залах мастацкага салона на Вялікай Дзмітраўцы зноў арганізоўвае выставу сваіх карцін, якая зрабіла вялікае ўражанне на мастацкую грамадскасць Масквы. Перадавыя рускія мастакі Уладзімір Бяклемішаў, Ілья Рэпін, Васіль Матэ і іншыя ўнеслі прапанову на разгляд савета Расійскай Акадэміі мастацтваў аб наданні Казіміру Стаброўскаму звання акадэміка жывапісу. Адбылося галасаванне: 16 чалавек прагаласавалі „за", а 19 — „супраць". Ды не ў гэтым справа, а справа ў тым, што творчасць нашага земляка ўжо тады мела вялікую папулярнасць і сілу.

Казімір Стаброўскі быў не толькі мастаком, вучоным і педагогам, але і артыстам. Ён меў нават ступень артыста першай катэгорыі, выступаў на сцэнах многіх тэатраў.

Пражыў наш зямляк крыху больш за пяцьдзесят гадоў. Памёр ад інфаркту ў 1929 годзе. Газета „Кур'ер Варшаўскі" 10 чэрвеня 1929 года пісала: „Памёр вядомы чалавек, знакаміты артыст, энтузіяст усяго прыгожага, слынны арганізатар і філосаф Казімір Стаброўскі. (...) Гэта быў чалавек вялікай працы".

Сапраўды, Казімір Стаброўскі працаваў шмат і пакінуў пасля сябе багатую спадчыну. На жаль, творы яго раскіданы па свеце. Нават цяжка ўявіць, што праз месяц ці праз год, ці праз дзесяць гадоў надарыцца магчымасць наладзіць на яго радзіме — Беларусі ці ў Навагрудку выставу ягоных карцін. Але верыцца ў гэта. І калі каму пашанцуе пабываць у мастацкіх музеях Польшчы, Нямеччыны, Італіі, Расіі, вы сустрэнецеся з карцінамі нашага славутага земляка Казіміра Стаброўскага. Яны вас прыцягнуць маркотнымі вясковымі краявідамі Беларусі, міфалагічнымі вобразамі, драмай і містыкай.

**Сяргей Чыгрын**

*Віктар Ярмалковіч*

# На хвалях жыцця

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

### У Польшчы

У туманны, асенні дзень выйшлі мы з перасяленчага лагера ў Прушкаве і накіраваліся ў далейшую дарогу. Было слізка. На плячах нёс я ўсю сваю маёмасць. Паслізнуўся я і лёг у балоцістым рове. Пачаў карабкацца, уставаць, але не так лёгка гэта мне давалася. Добра пры гэтым мусіў я выглядаць. Аўгіння не вытрымала, рассмяялася, а я злаваўся.

Чыгуначнікі ўзялі нас на паравоз. Цямнела, калі даехалі да Жырардава. Людзі паказалі нам будынак, дзе можна было пераначаваць. Апякаваліся ім манашкі. Зайшлі мы туды. У даволі вялікай зале дзе-нідзе на падлозе ляжала салома. Скінулі мы з плячэй пакункі і прыселі на жменьцы саломы. „Так разам не можна, пакажыце шлюбную метрыку", — запатрабавала манашка. „Добра, можам аддзельна, толькі каб яшчэ трохі саломы", — папрасіў я. Манашка пастаяла яшчэ хвіліну, відаць, не ведала, што рабіць, але зараз пайшла далей.

На другі дзень дабраліся мы да Камёна каля Скернявіцаў. Там, выходзячы з Варшавы, дамовіліся мы спаткацца. Аляксандр быў ужо на месцы. У падлозе вагона, якім яго разам з іншымі везлі на захад, палонныя выразалі дзіру, праз якую адзін за адным пакідалі вагон. Жонка Аляксандра, Часлава з малой Эвай і маці прыйшлі пазней. Іх вывезлі аж у Чанстахову і там высадзілі. Жанчыны засталіся з Аляксандрам у Камёне. Для нас не было ўжо там месца. Нанялі мы палову летняй кухні ў суседняй вёсцы Буды. А як з жыццём? Было па-рознаму. Мелі мы дантыстычную падрыхтоўку, захапілі з сабою дробныя інструменты і некаторыя лякарствы. З дрэва зрабіў я бормашыну. Сталі мы лячыць зубы, за што людзі плацілі нам хлебам. Прыйшла зіма, было холадна і галодна, бо часамі нават не мелі чаго есці.

Аднойчы пайшоў я раніцай за нечым у Камён. У вочы кінуўся мне небывалы да гэтага часу рух войска. На небе гудзелі самалёты. Абазначала гэта, што рушыў фронт. Спешна вярнуўся я назад. На полі паміж Будамі і Камёнам знаходзіліся нямецкія ўмацаванні, далей цягнуўся невялікі лес. Ледзь дайшоў я да яго, як надляцелі самалёты. Пачалася страляніна. На шчасце ў лесе раслі тоўстыя сосны і было дзе схавацца. З паўгадзіны круціўся я навокал такой адной сасны, пакуль самалёты адляцелі.

Вярнуўся я дахаты. Не сядзелася мне і задумаў схадзіць яшчэ ў краму ў Кавэнчын. Выйшаў я на дарогу і, калі быў ужо пры першых хатах Кавэнчына, надляцеў нейкі самалёт і выпусціў уздоўж дарогі кулямётную чаргу. Я паваліўся ў роў. З адной хаты выскачыў нейкі чалавек, які, пабачыўшы, што я ўстаў, схаваўся зноў. Вярнуўся я дахаты нічога не купіўшы. Страляніна ўзмацнялася, асабліва вечарам і ноччу. Снарады разрываліся бы маланкі. На другі дзень ішло ўжо савецкае войска.

Прайшоў фронт, свабоднай стала дарога ў Варшаву. Трэба было вяртацца. У Скернявіцы завёз нас селянін з Будаў. На станцыі сабралася многа народу: салдат, перасяленцаў, прымусовых рабочых, якія вярталіся з Нямеччыны. Каля дзяўчат круціліся салдаты, жартавалі. Дзяўчаты вярталіся хіба на Беларусь, бо адзін салдат гаварыў ім: „Едьте, едьте, на Белоруссии много висельниц".

Аляксандр вярнуўся з Камёна ў Варшаву ўжо раней. Знайшоў сабе пакой. Да яго зваліліся мы зноў. Пачалі разглядацца, чым тут заняцца. Параілі нам паехаць на поўдзень Польшчы, у Красценка каля Новага Тарга, дзе прабывалі дзеці з дзэтдома з Варшавы. З расказаў я ведаў, што гэта прыгожая мясцовасць. „Вайной яна не знішчана, — разважаў я, — то хіба там можна жыць". Паехалі, але хутка аказалася, што я ўсяго не ведаў. Да вайны гуралі жылі з турыстаў. У горах нямнога што расло. Цяпер турыстаў не стала і мясцовае насельніцтва само не мела чаго есці. На чацвёрты месяц разам з дзецьмі з сірацінца вярнуліся мы ў Варшаву.

Сталіца Польшчы была амаль поўнасцю разбурана, жыць не было дзе. У той час сталі вербаваць у Прусію. Што ж было нам рабіць? Накіраваліся туды і мы.

*(працяг будзе)*

Якія мы людзі

# Кветкі

Адплылі ў гісторыю гукі XIII Міжнароднага конкурсу імя Ф. Шапэна, які праходзіў у кастрычніку ў Варшаве. Абражаны Аляксей Султанаў, прадстаўнік Расіі, які не прыняў другой узнагароды і выехаў перад урачыстым уручэннем прызоў, паспеў ужо прыехаць у Варшаву паўторна і адплаціць сваім удзячным слухачам канцэртам Чайкоўскага. Быў дасканалы.

Нават музычныя крытыкі былі здзіўлены, што такі бесканкурэнцыйны піяніст, як Аляксей Султанаў, не апынуўся на першым месцы конкурсу Ф. Шапэна і што падраўнялі яго да француза, для якога другое месца побач з Султанавым было вялікім шчасцем і неспадзеўкай.

З журы, аднак, не спорыць. Сцвердзіла яно, што ў сёлетнім конкурсе імя Ф. Шапэна не было „індывідуальнасцей", хаця публіка шалела ад захаплення і апладзіравала стоячы, калі Султанаў іграў Шапэна. Гэты пераможца прэстыжных сусветных конкурсаў, які паваліў публіку на калені, быў, на думку журы, „занадта перфекцыйны, замала традыцыйны, іграў, як Ліста, не па-шапэнаўску".

* * *

Роўна дзесяць гадоў таму, у кастрычніку 1985 года адбыўся ў Варшаве XI Конкурс імя Ф. Шапэна. І тады таксама найлепшым аказаўся расіянін Станіслаў Бунін. Ужо тады, калі зайграў у першым этапе, многія музычныя крытыкі і члены журы беспамылкова сцвердзілі: першая ўзнагарода! Быў дакладны, уражлівы, адчуваў сябе ўпэўнена на сцэне, а мазуркі Шапэна — творы амаль з-пад страхі, з карчмы, як пісаў адзін з крытыкаў, — былі выкананы інтэлігентна, далікатна, па-майстэрску.

Станіслаў Бунін сапраўды атрымаў першую ўзнагароду, а публіка дзякавала гэтаму бесканкурэнцыйнаму юнаку шчырымі, працяглымі апладысментамі. Маладзенькі, ледзь васемнаццацігадовы хлопец быў беспамылковы тэхнічна, цудоўны інтэрпрэтацыйна, розны ў настроях, цешыўся сваёй ігрой.

Так! Калі іграў, то на яго твары была напісана радасць. Іграў, быццам гуляючы. Дакранаўся да клавішаў фартэпіяна — і быццам лёгкі ветрык прабягаў па іх, шумелі бярозы, плылі, журчалі ручаі, спявалі жаваранкі. Хлопец то ўсміхаўся гукам музыкі і часамі здавалася, што нават падсвістваў сабе, то станавіўся сур'ёзны, задуменны. У яго ігры тады адчуваўся шапэнаўскі боль і сум па айчыне, туга па ўсім тым, што на чужыне засталося толькі ў сферы яго мараў.

Іграў Станіслаў Бунін і быццам сам любаваўся сваёй ігрою. І меў рацыю: не было яму роўных! Іграў з нязвыклай лёгкасцю і адначасова прэцызіяй. Быў непаўторны.

* * *

Пасля заканчэння XI Конкурсу ў восемдзесят пятым годзе адбылася прэс-канферэнцыя ці проста сустрэча меламанаў (добра ўжо не памятаю) у Таварыстве імя Ф. Шапэна. Вядома, з удзелам усіх шасці лаўрэатаў конкурсу.

Вядучы на чарзе запрашаў іх на сцэну. Першым выклікаў, вядома, найвялікшага ў гэтым конкурсе, безагаворачнага пераможцу, лаўрэата першага месца Станіслава Буніна. Скромны, але сур'ёзны і ведаючы сабе цану хлопец увайшоў на сцэну і сеў на адно з падрыхтаваных лаўрэатам крэслаў.

Наступным быў, калі не памыляюся, француз. Дзяўчына з пятага ці шостага рада ўскочыла з месца, падбегла і, не даючы таму хлопцу сесці, уручыла яму кветкі. Адвечная сімпатыя, падумала я. А мо ў Парыж хоча...

Тады вядучы папрасіў на сцэну, здаецца, японку. І ёй нехта падарыў кветкі. Пасля быў амерыканец, а мо нейкі іншы японец — думаю, што гэта не так ужо важна — і для кожнага з іх, аж да апошняга, шостага месца нехта падрыхтаваў букет кветак. Шырокія ўсмешкі, пацалункі, надзея... Не было толькі кветак для рускага, для Станіслава Буніна.

Пераможца спакойна сядзеў і спаглядаў на тое, што дзеецца. У яго вялікіх, за акулярамі, вачах відаць было недаўменне. Здавалася, не мог ён зразумець, чым не спадабаўся сабраным і чаму ў яго ў гэтай зале няма сімпатыкаў. Адчувалася, што хлопцу было няёмка.

А ехаў жа ў Варшаву, амаль як у родны горад. У прамой лініі быў нашчадкам славутага польскага кампазітара Кароля Шыманоўскага і мог спадзявацца тут крыху цяпла. Быў аднак „Бунін", хаця і Станіслаў, ды, здаецца, нашчадак вялікага рускага пісьменніка Івана Буніна. Быў усяго толькі рускі, найбліжэйшы сусед, а ніякі ні амерыканец, ні японец, ні француз. Куды яму было да гэтых „замежнікаў"!

У зале, а таксама і перад экранамі тэлевізараў наступіла збянтэжанасць. Божа, дзе мы жывем?! Разгубленасць нарастала. І тады з-за куліс выйшла нейкая дзяўчына і падала на прывітанне Буніну „службовы" букет. На жаль, па часе.

Пачалі абвяшчаць, хто якія атрымаў узнагароды, каго куды запрасілі. Было сумна і сорамна. І можа, калі б гэта было сёння, дык усё адбылося б крыху інакш. Сёння ўжо і Парыж — не праблема. Плаці ды едзь, хочаш вучыцца — вучыся за мяжою. Але гэта было тады. І, на жаль, не ў Афрыцы, а ў самым цэнтры Еўропы, у тыя дні, калі ўвесь свет глядзеў на край Шапэна.

А зрэшты, навошта Буніну былі патрэбныя тыя кветкі, калі ён сам па сабе быў нязвыклай, цудоўнай кветкай. Як гэта сказаў нядаўна Алесь Разанаў? Кветкі растуць, не дбаючы пра тое, ці хто зверне ўвагу на іхнюю прыгажосць, ці хто ўдыхне іхні водар. І птушка спявае, знаходзячы водгук у сваім спеве.

**Ада Чачуга**

# Вон манахаў!

4 снежня ў Варшаве, у сядзібе Хрысціянска-грамадскай уніі мела месца прэзентацыя кніжкі Анны Радзюкевіч і Міхала Болтрыка „Precz z mnichami"*. Аўтары — „праваслаўныя беларусы з Беласточчыны", як адрэкамендаваў іх рэдактар кніжкі Яўген Чыквін — журналісты месячніка „Przegląd Prawosławny". Кніжку выпусціла выдавецтва „Orthdruk".

Анна Радзюкевіч правяла размовы з: артыстам Ежы Навасельскім, былым маршалкам Сейма Мікалаем Казакевічам, паслом Яцкам Куранем і старшынёй Хрысціянска-грамадскай уніі Казімежам Мараўскім. У кніжцы змешчаны таксама два яе рэпартажы: „Аўтапартрэт на фоне царквы" — пра вяртанні на сваю зямлю лэмкаў і „Вон манахаў" — пра пабудову двума палякамі манастыра ўсходняга абраду св.св. Кірылы і Мяфодзія каля Пярэмышля. Астатнія рэпартажы Міхала Болтрыка: „Дума лэмкаў" — гісторыя змагання за царкву ў Палянах, „Зааранная памяць" — канфлікты вакол могілак на паўднёвым Падляшшы і Холмшчыне, „Іншы Кракаў" — пра энтузіязтаў з гэтага горада, закаханых ва Усходзе, „Хроніка супрасльскіх падзей", — пра адстойванне праваслаўя ў гэтай мясцовасці ў нашым стагоддзі і „Канец свету для Болтрыкаў" — асабістыя запіскі з мясцовасці, якая апынулася пад вадой сённяшняга Семяноўскага вадасховішча. У кніжку ўключаны таксама апісанне Яўгенам Чыквіным сустрэчы з Ежы Гедрайцем і пагляду рэдактара парыжскай „Культуры" на польскую ўсходнюю палітыку — ды пераказ Альжбетай Чыквін вынікаў сацыялагічных апытанняў пра адносіны палякаў да нацыянальных меншасцей.

Прафесар Анджэй Яноўскі, віцэ-міністр адукацыі ва ўрадах Мазавецкага і Бялецкага, напісаў ва ўступе: „Думаю, што гэтую кніжку па-рознаму будуць успрымаць дзве групы чытачоў. Праваслаўныя, або тыя, хто адчувае сувязі з беларускасцю ці ўкраінскасцю, палічаць, відаць, што гэтая праца сумленна прадстаўляе шэраг спраў для іх цяжкіх, успрыманых як крыўды ці балячкі. Адначасна гэтая кніжка для іх і пра іх, вяртае ім справядлівасць. З іншым уражаннем застануцца чытачы з польскага асяроддзя, дзе дамінуе каталіцызм, дзе аб праваслаўі не чуваць нічога, або ўспрымаецца яно як экзотыка. Гэтыя чытачы могуць рэагаваць на публікацыю са здзіўленнем, недаверам, а можа нават і непрыхільнасцю".

Як быццам на пацвярджэнне гэтых прадбачанняў прафесара, Анна Радзюкевіч прывяла некаторыя фрагменты з першых рэцэнзій на кніжку. Беластоцкая прэса закідае аўтарам прадузятасць і патрабавальны ў адрас польска-каталіцкай большасці тон.

Цяжка не пагадзіцца з прафесарам Яноўскім, што гэтая кніжка патрэбная, перш-наперш, другой групе чытачоў, „прадстаўнікам пануючай каталіцкай большасці. Дазваляе яна пазнаць і зразумець пэўныя з'явы зусім з іншай перспектывы".

Дзеля гэтага, аднак, каб спрабаваць зразумець іншую культуру, — бо, менавіта, аўтары стараюцца паказаць палякам людзей і з'явы з круга праваслаўя, — патрэбна ахвота, добрая воля і звычайная адкрытасць.

**М. В.**

---

* Anna Radziukiewicz, Michał Bołtryk, *Precz z mnichami*, Białystok 1995.

# САМАГУБНЫ ІНСТЫНКТ

Пэўныя разыходжанні ў поглядах наконт будучыні Беларускага музея ў Гайнаўцы паміж старшынямі Беларускага грамадска-культурнага таварыства, Янкам Сычэўскім і Грамадскага камітэта пабудовы музея, Кастусём Майсенем, выйшлі падчас візіту на Беласточчыну сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей. Пісаў потым пра гэта Янка Сычэўскі („Ніва" ад 22.10.1995 г.): „Справа Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы не дае нам (БГКТ і Камітэту пабудовы) спакою перад усім таму, што без дапамогі з боку бюджэту дзяржавы заканчэнне будовы, добраўпарадкаванне і дзейнасць гэтай культурнай установы будуць немагчымымі. І толькі таму Галоўнае праўленне БГКТ і Грамадскі камітэт пабудовы Музея незалежна, у дэмакратычным галасаванні, прынялі пастанову аб тым, што Музей будзе дзяржаўнай установай без перадачы яго дзяржаве на ўласнасць, а ўласнікам аб'екта пасля заканчэння яго будовы будзе БГКТ. Спадар Канстанцін Майсеня быў прысутны на абодвух пасяджэннях як член Прэзідыума ГП БГКТ і як старшыня Камітэта. Калі цяпер сваімі выказваннямі хоча ўсяму гэтаму пярэчыць, то трэба паставіць пытанне, ці адна асоба можа (мае права) адкінуць пастановы праўленняў двух арганізацый?"

У такім самым духу ў перадачы „Пад знакам Пагоні" 7 снежня выступіў намеснік старшыні ГП БГКТ Мікалай Нікалаюк. Толькі яшчэ мацней чым Сычэўскі падкрэсліваў ён тое, што на перашкодзе да вырашэння праблем Беларускага музея стаіць Майсеня.

Калі б гэта было адасобленае выступленне, ці то ў газеце, ці па радыё, можна было б падумаць, што яно непрадуманае. Можна было б на яго, як на нейкую недарэчнасць, махнуць рукою. Усё аднак паказвае на тое, што гэта паслядоўнае дзеянне праўлення, прынамсі аднае арганізацыі, супраць аднай асобы. Так, толькі гэтай асобай не з'яўляецца нейкі Ваўранюк з вуліцы, а Кастусь Майсеня: чалавек-гісторыя, чалавек-установа, ініцыятар і будаўнік Беларускага музея ў Гайнаўцы!

Улічваючы няпэўны лёс сядзібы Галоўнага праўлення на вуліцы Варшаўскай 11, усё, з чым БГКТ засталося, з чым можа звязваць якія-колечы надзеі, гэта Беларускі музей у Гайнаўцы. Ужо нават перайменаваны на „Музей і асяродак беларускай культуры" як контрпраект Цэнтра беларускай культуры ў Беластоку. І што мы тут бачым? Атаку на чалавека, які гэты музей прыдумаў і будуе ўжо больш за дзесяць гадоў.

Калі меркаваць па росце тэмпературы публічнай дыскусіі — праўда, аднабаковай, пакуль што — дык не вядзе яна да выпрацоўкі нейкай супольнай пазіцыі. Ці, затым, улады БГКТ задумалі адсунуць Майсеню ад Музея?

Без Майсені — для мяне гэта адназначна — не маюць сэнсу ніякія размовы з уладамі пра функцыяніраванне Музея, бо яго проста не будзе. Не будзе каму даканчыць пабудову. Ні Сычэўскі, ні Нікалаюк, ні хто іншы з БГКТ не зможа запанаваць над тонамі бетону, тысячамі штук цэглы, кубаметрамі драўніны і квадратнымі метрамі мармуровых плітак, не кажучы ўжо пра тое, што нікому не хопіць упартасці, рашучасці і самаахвярнасці Кастуся Майсені.

І як тут не верыць Фрэйду, які на старасці год даказваў, што чалавекам кіруе самагубны інстынкт? Шкада, безумоўна, што БГКТ сваёй дзейнасцю не апраўдоўвае першай тэорыі Фрэйда, пра інстынкт да гэтага супрацьстаўны.

**Мікола Ваўранюк**

# Бежанства

*Працяг са стар. 1*

ску і яго аколіцах засталося толькі каля ста праваслаўных сем'яў.

Усё важнае: нямецкая акупацыя і змаганне за межы між Польшчай, Расіяй, Літвой, Украінай, адбылося практычна без удзелу тутэйшых беларусаў, якія тады знаходзіліся над Волгай, Донам і рэкамі Сібіры.

Палова бежанцаў ніколі не вярнулася дадому. Такім чынам, бежанства змяніла этнічны склад насельніцтва Беласточчыны (палякі наогул у бежанства не падаліся). Як ні дзіўна, гэты факт па сённяшні дзень ігнарыруецца польскімі спецыялістамі па гістарычнай дэмаграфіі. Крыху ў тым віны і беларускіх гісторыкаў. Няма ніводнай большай працы пра бежанства. У нашым асяроддзі толькі нядаўна з'явілася кніжка Ірыны Матус пра яе роднае сяло Давідовічы, дзе вычарпальна гаворыцца пра бежанства на прыкладзе аднай вёскі.

Мы паволі пачынаем разумець, што бежанства было самым вялікім выпрабаваннем нашага грамадства ў XX стагоддзі, а можа і за некалькі стагоддзяў. Тут успомню я размову з бацюшкам-лэмкам у бескідскай вёсцы Ляшчыны. Даведаўшыся, што я — беларус, бацюшка ўздыхнуў і сказаў: „О, вы — беларусы народ не рушаны". Быў у тым сказе тон зайздрасці. Чалавек, якога выгналі з роднай хаты, мае права зайздросціць чалавеку, які сядзіць на сваёй зямлі. Толькі што гэта не зусім так: мы ж былі ў бежанстве.

**Алег Латышонак**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Дом маіх мараў

Людзям марацца дамы, якіх не маюць. Каб у іх не было хвароб, людзі жылі б вечна і шчасліва. Да шчасця патрэбны яшчэ вялікі, сучасны самаход і многа грошай, якіх няма зараз дзе зарабіць, цяжка або не хочацца. Мне марыцца таксама вялікі дом.

Я хацела б, каб мой дом стаяў на беразе прыгожага возера, дзе жыла б толькі мая сям'я. Там ніколі не было б хвароб і мы не памiралі б, усе былі б шчаслівыя і задаволеныя жыццём. Хацела б я таксама, каб каля хаты раслі прыгожыя елкі і каляровыя кветкі, якія ўвесь час цвілі б. Мой дом — гэта замак, збудаваны з пяску, а дзверы і вокны — з зярнятак маку, так склееных, што ніхто не раздзеліць іх. Дах быў бы з цукру, а комін — з гароху. Я была б там каралевай. Мае жаданні выконвалі б слугі — фламастэры. У гасціну да мяне прыязджалі б госці з іншых планет на прыгожым касмічным караблі. Мне марыцца, каб у маім палацы было столькі пакояў, колькі ў годзе дзён. На сценах віселі б прыгожыя карціны. Пры замку — ганак. Сюды прылятaлі б птушкі і забаўлялі б сваім чароўным спевам маю сям'ю. На ўсіх падлогах майго дома ляжалі б дываны, вытканыя з залатых нітак. На столі было б відаць ніколі не патухаючыя зоркі. Я вельмі хацела б, каб мае мары споўніліся. Тады была б я шчаслівая.

**Ірэна Кулік,**
**вучаніца VII класа**
**ПШ у Дубічах-Царкоўных**


*Анна Леанюк і Ірэна Кулік з Дубіч-Царкоўных.*

**Ад рэдакцыі:**

Дарагая Ірэна! Такія ж казачныя мары мае таксама Тамаш Вавульскі, вучань VI „б" класа ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Што ты думаеш пра дом яго мараў, які красуецца ўнізе на малюнку н-р 2?

# Польска-беларуская панарамная крыжаванка н-р 12

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| MRÓZ → ↓ | UCHA → / KŁAMCA | ↓ | | |
| PAJĄK ↳ | | HAGA ↓ | | KOZA ↓ |
| | | | | |
| ROSA → | | | | |
| | | | ← RÓG | |
| ZORZA → | | | | |

наш слоўнік
* UCHA (zupa rybna) юха
* KŁAMCA — хлус

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу двух тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем узнагароды — касеты „Журавінкі".

**Адказ на крыжаванку н-р 8:**

вясёлка, рысь, хор, міна, танец, хада, хата, пяро, сыр, лёс, мех, львіца, як, рад, аса.

Узнагароды — **запісныя кніжкі** — выйгралі:

1) **Ірэк Абрамюк** з Нарвы,
2) **Міхась Пракапюк** з Ляшчын,
3) **Міхась Купрыяновіч** з Гародчына,
4) **Янка Каліноўскі** з Нарвы,
5) **Марта Сельвясюк** з Махнатага,
6) **Адам Яканюк** з Катоўкі,
7) **Адам Назарук** са Слівава.

Віншуем!

**Рашэнне конкурсу „Загадкі з агарода" н-р 3:** агурок, капуста, цыбуля, бурак.

Узнагароду — **запісную кніжку** — выйграла **Наталька Паплаўская** з Беластока.

# Мова старажытнай Беларусі

Дзяржаўнай мовай ў Вялікім княстве Літоўскім была беларуская. Беларусы складалі таксама грамадскую эліту дзяржавы. На беларускай мове напісаныя былі ўсе дзяржаўныя дакументы, як Вялікі статут 1468 г., Статуты 1519, 1566 і 1588 гадоў.

Беларускія князі з ягелонскай дынастыі былі таксама каралямі Польшчы і ўсе прыведзеныя тут заканадаўчыя зборы абавязвалі на тэрыторыі іх новай манархіі. На беларускай мове пісаліся дакументы каралеўскай канцылярыі ў Кракаве. Побач лацінскай была яна сродкам камунікацыі паміж людзьмі розных нацыянальнасцей ва ўсходняй Еўропе, а таксама ў дыпламатычных зносінах. Статут Вялікага княства Літоўскага ад 1588 г., які быў зборам законаў дзяржавы, у раздзеле 4 пацвярджаў дзяржаўнасць беларускай мовы. Так было да часу, пакуль Беларусі не заліла хваля польскай дробнай шляхты з Мазовіі. Пры падтрымцы каралёў з дынастыі Вазаў, а пасля таксама іншых польскіх манархаў, пастаянна замацоўвалі яны сваю палітычную пазіцыю ў Беларусі. У 1696 г. варшаўскі сойм ухваліў статут, які вызначыў польскую мову як дзяржаўную на тэрыторыі Вялікага княства. Пачаўся тады перыяд вялікай паланізацыі Беларусі. Беларуская мова з элітарнай, канцылярскай пастаянна абмяжоўвалася да мовы простага люду. Амаль дзвесце гадоў трэба было чакаць на яе адраджэнне.

# ЗІМА

Пад коўдраю белай заснула зямля,
Снег сцелецца, сцелецца, сцелецца...
На просецы чорныя кучы галля
Закрыла пярынай мяцеліца.
Павіслі галіны цяжарныя дрэў,
Замерзлі на соснах іглінкі.
Птушыны нідзе не пачуецца спеў,
Бясшумныя кружаць сняжынкі.
А вецер чуць дрэўца якое кране,
Снег звіхрыцца белым узрывам, —
І ўзнімуцца вецці і дрэўца ўздыхне,
Як грудзі людскія, — шчасліва.
Паўзе паміж лесу махнаты канёк
І сані з ахапкам саломы;
Засыпаны снегам, як чорны пянёк,
Дзед едзе адкульсьці дадому.
Між волатаў-дрэў, праз снежны навес,
Маленькімі сані здаюцца...
Дрымотна стаіць знерухомеўшы лес,
А ўкола — сняжынкі снуюцца.

**Канстанцыя Буйло**

# Конкурс „Дом маіх мараў"

**Дарагая „Зорка"!**

На пачатку нашага пісьма мы, гэта значыць вучні класа VI „б" Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім, хочам прывітацца з рэдакцыяй „Зоркі". Мы часта на ўроках беларускай мовы карыстаемся Вашымі артыкуламі. Некаторыя з вучняў нашага класа ўжо раней прымалі ўдзел у Вашых конкурсах.

У адказе на Ваш апошні конкурс мы вырашылі нашыя працы даслаць Вам амаль усім класам. Нас вельмі зацікавіў артыкул „Як будавалі дом нашыя продкі" і мы намалявалі дамы нашых мараў.

На гэтым канчаем пісьмо. З павагай, клас VI „б": Паўлік Бержын, Міхась Дэль-Пін, Пятрусь Дэмянюк, Марта Федарук, Адам Філіпюк, Артур Гушч, Кацярына Гуральчук, Кацярына Гурская, Адрыян Гальчанка, Андрэй Ярашук, Каміля Ярашук, Анна Юрчук, Януш Юрчук, Мажэна Карбоўская, Грэсь Кардзюкевіч, Пятро Кардзюкевіч, Данель Казачук, Пятро Лук'янюк, Моніка Адынец, Дарэк Альшэўскі, Бася Панасюк, Кацярына Плісюк, Анна Шышко, Міхась Таранта, Юліта Васілюк, Тамаш Вавульскі, Данель Войцюк.

**Ад рэдакцыі:**

Сардэчна дзякую за Вашыя чароўныя малюнкі і мілае пісьмо. Шэсць Вашых прац друкуем побач. Пра рашэнне конкурсу чытайце ў наступных нумарах „Зоркі".





*А вось прозвішчы аўтараў паасобных малюнкаў:*



Талон "Зоркі" н-р 12
24.12.1995

# Новая касета „Журавінкі"

Нядаўна паказалася касета калектыву „Журавінка". Думаю, што чытачам „Зоркі" гэты дзіцячы ансамбль прадстаўляць не трэба. Усе яны — вучні V „с" класа бельскай „тройкі", і ўсе яны частыя героі нашай старонкі. Назавем толькі прозвішчы дзяўчат, каб пацвердзіць вышэйсказанае. У „Журавінцы" спяваюць: Агата Гуральчук, Аня Краўчук, Дыяна Краўчук, Юліта Навумчук, Гражына Пашкоўская, Эва Пракапюк, Аліна Сікорская, Ася Тамашук, Мажэна Жменька, Аня Жураўль і Моніка Мельнік. Раней спявалі яшчэ два хлапчукі: Пшэмак Міхальчук і Крыстафор Раманюк.

*Апошнім часам "Журавінка" выступала ў Пуньску і сваімі песнямі захапіла не толькі літоўскіх аднагодкаў, але і дарослых.* Фота Г. Кандрацюк

Касета „Журавінкі" прадаецца разам са спеўнікам. Усе дзеці могуць развучыць словы песень.

— Існуем ужо тры гады, — гаворыць Сяргей Лукашук, дырэктар Бельскага дома культуры. Спадар Сяргей ужо 18 гадоў працуе з дзецьмі. Раней вёў ён такія дзіцячыя гурты, як „Жучкі", „Нашы дзеці", „Дзявочыя ноткі". Многія вучні Сяргея Лукашука сёння працуюць у галіне музыкі.

— Цяпер думаю пра малую „Маланку". Спявалі б у ёй дзеці спевакоў „Маланкі", — гаворыць спадар Сяргей.

Беларускай, дзіцячай творчасцю здаўна цікавіцца Васіль Ляшчынскі, дырэктар школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

— Мне хацелася б, каб усе дзеці, якія любяць спяваць беларускія песні, атрымалі нашу касету. Яна ў многім дапаможа малому беларусу. А так, — гаворыць спадар Васіль, — дзеці спяваюць песні, якіх не разумеюць або такія, якіх не павінны спяваць. Нашая касета адрасавана ўсім дзецям, якіх цікавіць беларуская песня.

Самыя дзяўчаткі з „Журавінкі" вельмі цешацца сваёй касетай. Яны любяць спяваць, танцаваць, а на дадатак вельмі прыгожа прэзентуюцца на сцэне. Усе любяць беларускую мову і сваю школу. Апошнім часам „Журавінка" расславіла беларусаў, прымаючы ўдзел у мерапрыемстве ў Пуньску. Сваімі песнямі юныя спявачкі захапілі не толькі аднагодкаў, але і дарослых. Я таксама верная паклонніца „Журавінкі".

Зорка

**P.S.** Наша рэдакцыя дзякуе Васілю Ляшчынскаму і Сяргею Лукашуку за касеты „Журавінкі". Атрымаюць іх пераможцы нашых конкурсаў. Дзяцей інфармую таксама, што касету можна купіць у бельскай „тройцы" і рэдакцыі „Нівы". Цана касеты — 5,5 зл.

# Вершы Віктара Шведа

## Пабрыйся, тата

Азвалася рана Ната
Сваім галаском салодкім:
— Ты пабрыйся, мілы тата,
Вырасла табе ўжо шчотка.

Твар нябрыты ручкі коле,
Калі будзеш хадзіць гэткім,
Пачнуць зваць цябе ў прадшколлі
Не татулькам, толькі дзедкам.

## Ці паходзім мы ад малпы?

Ната ўсё хоча ведаць залпам,
Пытаннямі татульку трудзіць:
— Скажы, ці сапраўды ад малпы
Паходзяць на зямлі ўсе людзі?

Супольнага ж у іх нічога,
Не мова ў малпы, толькі гукі.
Кароценькія вельмі ногі
І доўгія надзвычай рукі.

## Не дзедка, толькі тата!

У прадшкольнай зале
Гукае Альжбетка:
— Па цябе, Наталля,
Прыйшоў ужо дзедка.

З пярэчаннем гэткім
Азвалася Ната:
— Ды гэта ж не дзедка
Прыйшоў, толькі тата!

## Дзедаў ганак

Дзед Іван
высокі ганак
збудаваў,
ні цвікоў,
ні дошак-планак
не пашкадаваў.
І сваю цяпер унучку
ён у дом вядзе за ручку.
Падрастай,
адольвай, Ганна,
дзедаў шлях
і дзедаў ганак!

Ала Канапелька

# Цікавіны са свету

У Японіі, спецыяльна для дзяцей, прыдумалі чарадзейны мікрафон. Мяняе ён голас на тонкі, грубы або голас іншапланецяніна.

***

У Англіі прыдумалі „экалагічную" мухалоўку. Мае яна выгляд празрыстай лейкі на доўгім тронку-ручцы. Калі на сцяне пабачым муху, накрываем яе лейкай, а пазней пакручваем ручкай і лапка закрываецца. Лейку нясем за акно, адкручваем ручку, лапка адкрываецца і зусім здаровая муха адлятае, або... зноў вяртаецца ў хату.

***

У Злучаных Штатах Амерыкі можна купіць аўтаручку, якая не толькі піша, але запісвае размову на касеце і пазней адчытвае яе як магнітафон.

З-ка

# Пішуць школьнікі

## Дарагая „Зорка"!

Я — вучаніца чацвёртага класа Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім. Мяне завуць Анеля. Я даўно пішу вершы, толькі на польскай мове. Цяпер я напісала верш на беларускай мове. Не ведаю, ці ён вам спадабаецца. Нягледзячы на тое, што я вучаніца ліцэя, я слаба ведаю беларускую мову. Яна заўсёды была для мяне цяжкая. Шчыра дзякую рэдакцыі „Нівы" за стварэнне магчымасці лепшага пазнавання беларускай мовы. А вось мой верш:

Жыццё маё — гэта боль,
Усё нараканне і праблемы.
Як кінутая ў вочы соль,
Яна ўсё баліць у душы.

Каб вырвацца з гэтага жыцця
І кінуцца ў свет далёкі.
Можа тады я зразумею,
Што значыць жыць без слёз.

На іншай планеце —
Таксама —
Ёсць боль і слёзы жыцця.
Не маю падзякі, пашаны,
Каб жыць у іншых вачах.

Анеля

### Ад рэдакцыі:

Прывітанне, Анеля! Не здзіўляе мяне, што беларуская мова даецца табе вельмі цяжка. Праграма, якой карыстаюцца многія школы, патрабуе рэформы, бо яна надта савецкая і не супадае з нашымі рэаліямі. Калі хочаш пазнаваць сапраўдную беларускую мову, вярніся да народнай гаворкі. Гэта дапаможа зразумець табе, што такое „душа" мовы. Беларуская мова мае крышку іншую прастору, як польская. Таму заўсёды будзе табе цяжка вызначыць абсяг сваёй паэзіі і знайсці ў ёй лірычнага героя. А без гэтага немагчыма збудаваць гарманічны твор. Прапаную табе пераключыцца на беларускую мову, што абазначае вельмі многа „дадатковай" працы. Затое будзеш мець лягчэйшы „старт" і напэўна не „згубішся". А калі твая паэзія набярэ універсальнага сюжэту, цябе будуць тлумачыць на польскую, нямецкую ці англійскую мовы. Успомню толькі, што такія дылемы як ты меў і Янка Купала (які першыя вершы пісаў на польскай мове) і Якуб Колас. Пішу ўсё гэта таму, што захапляе мяне твая шчырасць. Дашлі мне таксама свой адрас, бо хачу перадаць табе, на маю думку, самы цікавы зборнік беларускай паэзіі: „Дзверы" Надзеі Артымовіч і Алеся Разанава.

4 5 6

*1) Моніка Адынец, 2) Тамаш Вавульскі, 3) Артур Яраслаў Гушч, 4) Кася Гурская, 5) Марта Федарук, 6) Юліта Васілюк.*

# Сакратава даліна

Сакрат Яновіч, як вядома, піша найчасцей на беларускай мове, але здараецца яму часам нешта напісаць і на агульназразумелым дыялекце, каб маглі гэта пачытаць сабе таксама неправаслаўныя палякі. Апрача шматлікіх артыкулаў, найбольш вядомыя дзве кніжкі, напісаныя аўтарам на польскай мове: „Białoruś, Białoruś" (1987) і „Dolina pełna losu" (1993). Першая кніжка гэта гістарычны нарыс пра Беларусь і беларускі народ, другая — сацыялагічны эксіз у літаратурнай апрацоўцы душы беластоцкага беларуса вырванага лёсам са сваіх мясцін, пазбаўленага каранёў, загубленага ў пошуках новага прытулішча ў „Вялікім Горадзе Беластоку".

Нейкай ironіяй лёсу ёсць тое, што ў канцы васьмідзесятых гадоў даволі баламутная „Białoruś, Białoruś" апынулася ў цэнтры ўвагі палітычных і навуковых колаў рыхтуючайся да вялікіх пераўтварэнняў Польшчы. Напярэдадні ўзнікнення незалежнай Беларусі мела яна аднак даволі вялікае палітычнае значэнне, нягледзячы на надта свабодную інтэрпрэтацыю фактаў, на якую дазволіў сабе аўтар. Пра „Białoruś" пісалі і гаварылі ўсялякія невукі, якія найчасцей чапляліся арыгінальных, хаця не заўсёды трапных, Сакратавых акрэсленняў, асабліва тых, якія кранаці палякаў і беларуска-польскіх адносін. Мерытарычнай дыскусіі над кніжкай так у сапраўднасці не было, бо не існаваў другі бок для абмену думкамі. Усё, што напісаў Сакрат пра Беларусь, здавалася палякам вельмі наватарскім і арыгінальным. Хаця была гэта краіна, якая знаходзілася зараз за мяжой, нічога пра яе не ведалі.

Зусім без рэха, не толькі ў польскім, але таксама ў беларускім асяроддзі, асталася другая кніжка Яновіча, напісаная аўтарам на польскай мове — „Dolina pełna losu". Можна зразумець беларусаў, якія не надта ахвотна хацелі гаварыць пра яе змест, бо была гэта фатаграфія аднаго пакалення, рэнтгенаўскі здымак яго душы, паказаны чужому свету. Палякаў наогул тэма не цікавіла, бо кранала толькі зусім незразумелых ім спраў аднае з нацыянальных меншасцяў. „Dolina" гэта апісанне лёсаў Сакратавага пакалення падчас пасляваеннага „бежанства" з вёскі ў Беласток. Яновіч у сваім апавяданні зыходзіць часам да натуралізму. Нават калі піша пра сябе, свае пачуцці, ён шчыры аж да межаў нейкага мазахізму. Не надта чароўна выглядае наш люд у яго вачах, не надта прывабныя нашы жанчыны. „Mowę białoruską utożsamiano z zababranym życiem, pozbywano się jej niczym szypułkowatej wysypki, świadczącej o jakimś wstydliwym choróbsku. Z fanatyzmem tępiły słowo ojczyste pannice właśnie, zażarcie szykujące się do bywania w eleganckim światku...

Zapoznawałem nie same Nadźki, lecz i tak traciłem je bezapelacyjnie, bo nie wysilałem się przed nimi na panka, nie opowiadałem oklepanych facecji o wsiokach, no i nie sławiłem wyższości polszczyzny, bezlitośnie tłamsząc rasistowskie przesądy, że nasz „mużyk" głupcem się rodzi. Daremnie dociekałem owej nienawiści do samych siebie; dlaczego czoło takiej jednej pokrywało się perlistym potem, kiedy na zabawie w fabryce Sierżana zadeklamowałem jej w ramach podrywu, wierszyczek po białorusku, a inna na sam dźwięk swojszczyzny tej była skora do omdlenia z obrzydzenia. Stereotypowa reakcja hołoty. Po co łachmaniarzowi własna narodowość".

Калі „Dolina" ў 1992 г. друкавалася ў адрэзках у „Часопісе", з розных бакоў чуліся словы абурэння на парнаграфічныя матывы, на стварэнне некарыснага вобразу беластоцкага беларуса. Некаторыя праўдападобна пабачылі ў Яновічавым апавяданні самых сябе. „Białystok z lat pięćdziesiątych — пісаў Сакрат — służył za schronienie dla uchodźców z rolnictwa. Owo uciekinierstwo przybrało stadny charakter na białostockim wschodzie województwa.

Bieda tutaj jawiła się straszniejsza aniżeli na mazurskim zachodzie, także obciążenia w podatkach i obowiązkowych dostawach zboża i mięsa tudzież presja kolektywizacyjna — wszystko okazywało się wręcz nieporównywalne. Administracja wywodząca się z Białorusinów odznaczała się przy tym niesłychaną nadgorliwością jak na polskie wymogi polityczne. Nikła świadomość narodowa tych awansowiczów w połączeniu z krachem prawosławnej konfesyjności spłaszczyły ich osobowość do cieniutkiej teorii walki klasowej, a moralnie zdegenerowały. Stalinizm w tej enklawie buszował w iście radzieckim stylu".

Прага сацыяльнага авансу нашых сялян у Сакратавым бачанні свету ёсць як бы ненатуральнай, бо адкідаючай усе прыкметы чалавечнасці, калі перашкаджалі яны ў дасягненні мэтаў. Нават адукацыя і новае выхаванне былі толькі сродкамі, адкрываючымі брамы ў гарадскі рай. „Czytanie i pisanie to żadna praca. A ma być jak w niebie, kiedy z dyplomem w kieszeni obejmuje się etat w przedsiębiorstwie. Wówczas to — osiem godzinek przyjemnego kierownikowania, po czym podjadki i rozrywki, kinko i tańce, łażęgowanie bez suszenia sobie mózgów, skąd brać środki. — Niczoho nie robić i hroszy biare — przechwalali się spłodziciele wyemancypowanych kokietek i kształconych nierobów.... Potomek wypchnięty z doliny do Białegostoku prze do przodu ino para z niego bucha! Taki wykorzenieniec w mieście to przeraźliwa moc! Walczy on zaciekle o szczebelek dla siebie. Spełni zatem wszystkie życzenia dysponenta niczym rozkaz w warunkach bojowych. Moralizowania wysłucha z pokorą w świątyniach obu wyznań, lecz nie w pracy. W niej mu front".

Яновіч, як бы знутры, сам будучы элементам нейкага працэсу, прадстаўляе механізм, які стварыў з нашых Сашкаў, Васькаў, Міколкаў сакратароў, кіраўнікоў, маёраў. Пажаданым у гэтай сістэме было, каб адкінулі яны свае „кацапскія" імёны. Калі не памянялі іх у дакументах, то прынамсі ў сяброўскім асяроддзі выступалі „нашы хлопцы" як Сыльвкі, Вацкі, Меткі. „Musisz być Polakiem na sto dwa procent" — пераконваў аўтара „Doliny" майстар Міша ў фабрыцы Сяржана, дзе шукаў ён працы.

Удзельнічаючы ў кожных выбарах пасля 1989 г., беларускія дзеячы ніколі не ўлічвалі менталітэту выбаршчыкаў, да якіх звярталіся за падтрымкай. Выглядае, што пройгрыш як бы стаў галоўнай мэтай нашай актыўнасці. Сам Сакрат Яновіч, як пісьменнік, разумеў усе псіхалагічныя працэсы, якіх удзельнікамі былі беластоцкія беларусы. Аднак, як лідэр палітычнага руху ў канцы васьмідзесятых і на пачатку дзевяностых гадоў, не змог удачна выкарыстаць сваіх ведаў. Можа не хапіла цынізму і крывадушнасці, так патрэбных у палітычнай дзейнасці. Люд не любіць шчырасці, люд чакае пахвал, кампліментаў, гарантыі, што справядліва ім нехта кіраваць будзе. Што іншага народ, які сам хоча вырашаць усе свае праблемы.

„Na przyjęciach dla swoich i weselach między swoimi na Pietraszach, Dziesięcinach, Bacieczkach, Dojlidach, Zaściankach, Pieczurkach, Antoniuku i Marczuku rosło odczucie, że w mieście przestaje cokolwiek dziać się bez wiedzy i kontroli naszych aborygenów... Dostawano chrypki od rozprawiania o polityce, i to z taką lojalnością, jak gdyby sam Kreml przysłuchiwał się debatowiczom z grzybkiem na widelcu. Oddanie komunizmowi ze strony akurat tych, których owa godzilla trzebiła. Coś na kształt miłości ofiary do kata. Perwersje dające się zaobserwować w przełomowych momentach dziejów", — пісаў Сакрат Яновіч пра эпоху беларускага рамантызму на Беласточчыне пяцідзесятых і шасцідзесятых гадоў. А кожны народ кахае свой рамантызм.

**Яўген Міранавіч**

*S. Janowicz, Dolina pełna losu, Białystok 1993, ss 134.*

<u>У кіпцюрах цецерука</u>

# ЧЛЕН

Як далёка змагу глянуць за сябе, у мінуўшчыну, я заўсёды быў членам нейкай групы, арганізацыі, таварыства, сяброўства і чорт адзін ведае чаго яшчэ. У абдымкі гэтай ці другой арганізацыі кідала мяне якаясьці дзіўная сіла. Нябачная і бесцялесная, днямі тузала мяне ў грудзі, начамі шаптала нахабна:

— Дзейнічай, дзейнічай, дзейнічай!

І я дзейнічаў. А ўсякай масці членскія білеты расплоджваліся ў маіх кішэнях з такой хуткасцю, з якой адно аўстралійскія трусы прадаўжаюць свой род. Не скажу, была і іншая прычына маёй актыўнасці: душа расла, а грудзі самі выпіналіся і мацнелі, калі, ідучы сялом, тут-сюд з задворкаў даносіўся страсны шэпт:

— Во, гляньце, наш член ідзе.

— А які саноўны!

— А які элегантны. Блісь ды ясь!

На працягу дзесяцігоддзяў членстваў набіралася столькі, што я ўжо не прыдаваў ім ніякага значэння, а пра некаторыя звычайна і забыў.

І вось — на табе!

Нейкія людзі, людзі малыя, людзі, якім чужая паэтычная метафара, людзі, якія ўсё разумеюць дасл оўна, прычапіліся да мяне, бы распусныя старэчы да цнатлівай Сузаны.

І лаюць, як цыган кабылу!

Пайшло менавіта пра тое, што калісьці там падпісаў я нейкую дэкларацыю аб уступленні ў Саюз аматараў марынаваных селядцоў, калі публічна вядома, што я закусваю толькі селядцамі салёнымі.

Закід смешны, усё-такі някемлівым пастараюся растлумачыць як гэта з няшчасным САМСам было.

Калісьці, калі быў я яшчэ славутым дырэктарам дома культуры ў вёсцы Грыбкі, меў гонар выступіць на нашай эстрадзе нейкі Л. П., тэнар італьянскай оперы. Вердзі прагучаў, артыст ад'ехаў, а мы з сябрамі задумалі пасвяткаваць наконт удалага мерапрыемства. Напітак у нас быў свой, за закускай трэ было збегаць у магазін. А там, як гэта пры камуне — толькі марынаваныя селядцы.

Нехта пачаў збіраць добраахвотныя складчыны. Даў яму нешта і я. Ён ад мяне не хацеў браць ніякіх грошай, ведаў жа, што я вораг марынаваных селядцоў. Я ў сваю чаргу не хацеў, каб ён вяртаў мне гэтыя невялікія грошы. Справа зайшла ў тупік. Тады я сказаў, што гэта ўзнос у САМС. От, так сабе, жартам. Пра эпізод з САМСам я канчаткова забыў, калі з'ехаў у Маскву. Афіцыйна, каб паглыбляць свае веды ў галіне літаратуры. Але гэта толькі афіцыйная версія. Папраўдзе паехаў я туды з адной мэтай: знішчыць сістэму, якая аматараў салёных селядцоў прымушала напіхаць калдуны селядцамі марынаванымі.

У Маскве прайшоў я геену. Сябры камунізаваліся, каштавалі армянскі каньяк, ікру. Што ж, былі гэта людзі малога маштабу. Мяне чырвоная Масква не зацягнула ў свой распусны ложак, не кранула брудным пальцамі.

Сёння няма ніякіх сумненняў, што сваю місію выканаў я ўзорна. Пасля майго вяртання дамоў і СССР, і камунізм праспявалі яшчэ адну ці дзве страфы сваёй песні, была гэта аднак ужо лебядзіная песня.

І калі цяпер нехта выхваляецца, як гэта ён пераскокваў плот ці нейкую іншую агароджу, я толькі сакрэтна ўсміхаюся.

**Міхась Андрасюк**

# МАНАЛОГ „ТУТЭЙШАГА"

*Ахвярую Максіму Танку*

Люцыян, уяві, ты адзін,  
ты застаўся адзін  
на Славяншчыне,  
і нікога няма, паглядзі,  
і нічога з Купалавай спадчыны,  
і забралі жанчыну тваю,  
віна налілі ёй атрутнага,  
загадалі: адпі за сям'ю,  
а да дна — за радзіму  
акрутную,  
і сканала жанчына твая,  
і памерла радзіна апошняя,  
і паглохлі зязюлі ў гаях,  
а ў нябёсы ўсмакталіся коршакі,  
захлынуўся крывёю Пярун,  
зразумеўшы ў запозненым  
плачы,  
як сваёю крывёю Гарун  
і ягоную кроў прадбачыў,  
і зліліся ў адну раку  
і атрута, і кроў, і слёзы,  
і на выспу, як на руку,  
селі коршакі, як залозы.  
А ў тваім, Люцыян, Дняпры,  
што жывіў спакон веку гоні,  
тры русалкі, славянкі тры  
янычаравых мыюць коней,  
а ў тваім, Люцыян, Сажы  
на грудзёх з камянём пудовым  
твой апошні паэт ляжыць,  
бы ў труне — у Сажы лядовым.  
Ты адзін, ты адзін, ты адзін,  
ты застаўся адзін  
на Славяншчыне,  
і Радзіма твая, паглядзі, —  
русакосая Янычаршчына,  
а калісьці ты гаварыў,  
а калісьці ты нават кляўся:  
не патухне Зніч на Гары!  
Ён патух. Ты яму пакайся  
за ягоны пакутны прах,  
за Радзіму сваю нявінную,  
янычары яе ў палях  
крумкачам ды ваўкам  
пакінулі,  
ты пакайся за свой спакой,  
што зубамі не грыз вяроўку,  
бо здушыўся і ты на ёй  
ад жывёльнага поту мокры,  
кайся, кайся за свой жывот,  
не забудзься і пра Купалаў,  
бо цяпер ты адзін — народ,  
быццам храм на шляху вандалаў.  
ДЫ ПАКУЛЬ ТЫ ЯШЧЭ  
ЖЫВЕШ,  
ЗАПАЛІ ПРАД КУПАЛАМ  
СВЕЧКУ,  
ПРАЧЫТАЙ І СПАЛІ МОЙ  
ВЕРШ,  
А ВАНДАЛАМ СКАЖЫ:  
Я — ВЕЧНЫ!

**Анатоль Сыс**

<u>14 студзеня, у Гайнаўцы</u>

## Сустрэчы калядоўшчыкаў

14 студзеня 1996 года ў Доме культуры ў Гайнаўцы адбудуцца раённыя сустрэчы калектываў калядоўшчыкаў. Мерапрыемства распачнецца а гадзіне 13.00. Могуць у ім прыняць удзел салісты, калектывы, хоры.

Увага, заявы аб удзеле ў вышэйзгаданых сустрэчах павінны паступіць у Дом культуры ў Гайнаўцы, па вул. Беластоцкай 2, не пазней чымсьці 5 студзеня 1996 года. Арганізатар запрашае ўсіх ахвотных.

**(яц)**

# Падарожжа ў Высокае

Не раз прыходзілася мне пабываць за рубяжамі дзяржаўнай граніцы як турысту. Нядаўна вырашыў я паехаць у Высокае, невялічкі гарадок, які знаходзіцца непадалёк Чаромхі, у суседняй Беларусі.

З Беластока адправіўся я прамым цягнікам па маршруту Беласток—Брэст а 9.40 раніцы.

Амаль дзве з паловай гадзіны спатрэбіліся, каб дабрацца ў Чаромху. Цягнік цягнецца тут як чарапаха. Пуці слабенькія. „Добра, што не закрылі гэтай лініі, — кажуць людзі, — бо і такая думка блыталася ў галовах варшаўскіх чыноўнікаў Цэнтральнай дырэкцыі ПКП".

У Чаромху прыехаў я каля абеду. Тут трэба чакаць чарговыя паўтары гадзіны, пакуль пасажырам зробяць пагранічны і мытны кантроль. У такой сітуацыі адмаўляюся ад далейшага падарожжа цягніком. Выходжу на падсадку. Цяпер жа праз пагранічны пераход Полаўцы—Пяшчатка безупынна курсіруюць польскія і беларускія аўтамабілі. Многія з іх заязджаюць на чыгуначную станцыю, каб абяспечыцца ў прывакзальнай краме (прыватнай, вядома) таварам. Такім чынам можна пакарыстацца нагодай і забрацца ў Высокае ці Брэст. Гэта намнога выгадней і танней. Выгадней таму, што заедзеш зразу ў назначанае месца. Танней, бо білет у Высокае каштуе каля 65 тысяч старых злотаў, а на падсадцы заплаціш усяго 30 тысяч шафёру за „экалогію", а калі едзе двух, то па 15 тысяч.

Калі няма аўтамабіляў на станцыі, тады можна заглянуць на рыначак за магазінам „Паўшэхны". А калі і тут не знойдзеш транспарту, тады трэба ісці дарогай у напрамку пагранічнага перахода. Там заўсёды нехта падвязе.

Мне ўдалося забрацца з маладажонамі з Чаромхі. Мае новыя знаёмыя аказаліся сімпатычнымі спадарожнікамі. Шафёр прыпыніўся на Фабрычнай, каля нейкага будынка. „Вазьму напітак, — кажа, — прыдасца ў дарозе!"

Побач шэрага жылога корпуса стаіць некалькі аўтамабіляў. Ніякай шыльды. Аднак людзі выходзяць з пакупкамі, відаць, тут змяшчаецца крама. Наш вадзіцель выходзіць з бутэлькай „колы".

— „Рускія" найлепш любяць „колу", — ухмыльнуўшыся ў мой бок, кажа шафёр.

Кранаемся ў далейшае падарожжа. Перад намі паказваецца кучка жанчын.

— Гэта „рускія", — кажа жонка шафёра. — Яны так безупынна курсіруюць некалькі разоў удзень, туды і назад.

— Чым таргуюць?

— Гарэлкай, спіртам і папяросамі.

— А дзе іх багаж?

— У пакетах і сумачках, што ў руках...

Недаверліва спаглядаю на пешаходаў. Прыгорбленыя, з пачырванелымі ад марозу тварамі, з пастаўленымі каўнярамі паліто. Ідуць моўчкі.

Даехаўшы да скрыжавання дарог, паварочваем улева, на шашу Беласток—Кляшчэлі—дзяржаўная граніца, і накіроўваемся на гранічны пераход Полаўцы—Пяшчатка. І тут каля дзесяці чалавек чакае на падсадку.

І вось мы на месцы. Спыняемся перад шлагбаўмам. З левага боку ў дзяжурцы сядзіць польскі салдат. Некалькі метраў далей, за шлагбаўмам — беларускі пагранічнік.

Падыходзіць жанчына з паперай. Шафёр плаціць „экалогію". Пагранічнікі правяраюць дакументы. Потым ставімся на мытны кантроль. Польскіх грамадзян, якія едуць у Высокае ці Брэст, мытнікі амаль не кантралююць, а толькі штампуюць ім таможныя дэкларацыі. Затое беларускіх турыстаў правяраюць дэталёва.

А потым усё адбываецца наадварот. Едучых з Беларусі ў Польшчу і беларускія і польскія мытнікі правяраюць скрупулёзна. „Вышчупваюць" усё.

Пасля афармлення дакументаў, шафёр атрымоўвае на „экалагічнай" картачцы штампы пагранічнікаў і таможнікаў, якую абавязаны ён паказваць дзяжурным пагранічнікам яшчэ на двух варотах. Але з гэтым ужо найменшая праблема.

Пакідаючы граніцу, спаглядаю ў левы бок, дзе стаяць аўтамабілі, якія чакаюць на ўезд у Польшчу. Чарга мне здалася невялікай, каля трыццаці пяці машын.

Мае спадарожнікі, так як усе „турысты" (польскія і беларускія), ехалі купіць некалькі бутэлек спіртнога і пару кардонак папяросаў. Не выяўлючы мэты сваёй паездкі ў Высокае, пайшоў я іх следам, каб пасля забрацца з імі назад.

Асноўны тавар купляецца ўжо на станцыі Высока-Літоўск. Спыніліся мы каля крамы з прадуктамі.

— А мо вы хочаце спірт купіць? — спытаў мяне шафёр.

— А колькі ён тут каштуе?

— Чатыры долары. Калі няма долараў можна за польскія злоты, — паясняе шафёр.

Ужо надумаў я наведаць беларускую „манапольку", калі пачуў голас жонкі шафёра:

— Давайце грошы... купім вам, бо незнаёмаму нічога не прададуць. Усё тут па знаёмству!

Нічога мне не заставалася, як згадзіцца на прапанову сваіх спадарожнікаў. Выцягнуўшы з кашалька зялёную пяцёрку (5 долараў значыцца), падаў яе шафёру.

— Ды што вам купіць, спірт ці папярос?

— Бутэльку польскага спірту...

Я пайшоў у краму, а мае знаёмыя падаліся афармляць справы.

У прадуктовай краме нічога асаблівага я не прыкмеціў. Хлеб, булачкі, некалькі відаў піражнага, масла, а таксама іншыя тавары, неабходныя для сямейнай кухні. Цэны страшэнна вялікія. Ёсць тут многа заграмічных тавараў, асабліва польскіх напіткаў, алею. Папяросы рознага сорту, перад усім амерыканскія, руская гарэлка ўжо з „акцызам". Дарагія. У суседняй краме з прамысловымі таварамі заўважаю некалькі крэслаў, жаночую вопратку, галантэрыйныя вырабы, касметыку. Выбар невялікі, цэны вялікія.

Неўзабаве вярнуліся мае знаёмыя. Усё купілі. Мне ўручылі буталь спірту і... назад у дарогу.

Шчыра прызнаюся, што з вялікай ахвотай пабачыў бы сам горад Высокае. Аднак шкада мне было пакінуць сваіх сімпатычных спадарожнікаў, а і некалькі залатовак заставалася ў кішэні (білет не трэба купляць). Рашыў вярнуцца з чаромхаўскім шафёрам і яго жонкай назад.

Было ўжо каля чацвёртай гадзіны пасля абеду, калі спыніліся мы ў чарзе на граніцы. Перад намі стаяла каля дваццаці пяці аўтамабіляў. Да чаргі прыліпла некалькі беларускіх і польскіх машын.

Мінула гадзіна. Упусцілі чатыры аўтамабілі з чаргі. Пяты паехаў з „прычэпкі".

Марудна сцякае час. Ужо набліжаецца пятая гадзіна вечара. Наш шафёр пачынае хвалявацца. Я таксама. За першыя вароты не ўпускаюць. Чарга не варушыцца з месца.

Праз наступную гадзіну зноў прапусцілі некалькі машын. Больш было „прычэпных" — знаёмых пагранічнікаў.

Выходжу з аўтамабіля. Каля агароджы з дроту і варот, цераз якія праязджаюць машыны, стаіць некалькі чалавек. Падыходжу і я.

— Вы тоже по-блату, — кідае ў мой бок адна з жанчын, чакаючых на „свайго" пагранічніка.

— А тут прапускаюць па-блату? — пытаюся.

— Ды, я так думаю, стаіце тут, то некага чакаеце, — нерашуча пачала тлумачыцца тая ж самая жанчына...

Да агароджы падыходзіць нейкі мужчына.

— Позови прапорщика, — быццам загад кідае яна вартаўніку. — Вот мой номер машины.

Салдат падымае тэлефонную трубку, якая вісіць ля варотаў. Некалькі незразумелых мне слоў, і адказ: „Подождите немножко".

Стаю і думаю: вось як гэта робіцца... Усё „па-блату".

Вяртаючыся да аўтамабіля, далучаюся да некалькіх мужчын-шафёраў. Яны з чаргі.

— Вы тоже едете?

— Ага...

— Сегодня большая очередь. Медленно пропускают... Я вчера пять раз обернул.

— А можно так? — пытаюся.

— Почему нет. Надо только с утра, пока все на работе.

— Какой расчёт? Есть прыбыль?

— Чему нет... Завезёшь в Польшу 80 литров солярки, и назад. Посчитайте по 8 тысяч за литровку. 640 тысяч польских злотых. Умножить это в пять раз, больше трёх миллионов получаем. А у меня всего 50 долларов месячной зарплаты...

З далейшай гутаркі я даведаўся, што тыя на „Мэрседэсах" добра на гэтым выходзяць. Такія пажывуць.

Як бачым, дарожны пераход Пяшчатка—Полаўцы даў магутную магчымасць разбагацець паасобным дзялкам. Яны могуць курсіраваць, колькі толькі захочуць. Закон не забараняе, не абмяжоўвае колькасці праездаў у дзень. І людзі жывуць. Багацеюць...

Мне прыйшлося доўга яшчэ стаяць у чарзе. Калі вярнуўся да сваіх знаёмых, жонка шафёра драмала. Ён сам таптаўся каля машыны.

Пераехалі мы граніцу пасля поўначы.

„Цяжкі гэты кавалак хлеба", — падумаў я аб маладой шлюбнай пары, якая надумала ўключыцца ў вялікую сям'ю чаромхаўскіх і высокаўскіх „турыстаў" і зарабіць некалькі залатовак.

Развітаўшыся са сваімі прыяцелямі з Чаромхі, пажадаў я ім поспехаў у далейшых „паездках", а сабе — ізноў падацца ў падарожжа ў Беларусь, толькі не ў такое, як гэтым разам.

**Кастусь Млынарскі**

<u>28-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы</u>

# Пра кліканых на банкет

*(Лукі, 14:16-24)*

У 14-м раздзеле Евангелля паводле Лукі ёсць прытча пра чалавека, які наладзіў вялікі банкет і пачаў клікаць на яго гасцей. Аналагічнае апавяданне пра запросіны на вяселле царскага сына знаходзім у 22-м раздзеле Евангелля паводле Матфея. У абодвух варыянтах прытчы, запрошаныя на банкет пагардзілі запросінамі, матывуючы гэта сваімі заняткамі і турботамі. Тады разгневаўшыся на тых, што адмовіліся прыйсці, гаспадар паклікаў выпадковых людзей, усіх, каго слугі сустрэнуць, і заявіў, што „многа запрошаных, але мала абраных".

Прытча пра запрошаных на банкет азначае Божыя запросіны ў месіянскае царства — Царкву Хрыстову, якімі пакарысталіся паганцы, якія не лічылі сябе годнымі, аднак з удзячнасцю адклікнуліся на запросіны. У той час, пакліканыя ў першую чаргу яўрэі зняважліва паставіліся да Хрыста. Бог напамінаў Ізраілю пра вялікія дабрадзействы, аднак народ хутка пра іх забываўся. Бог указваў на гэтую забыўчывасць як на адну з прычын усіх бедаў: паразаў, спусташэння і блукання па свеце. „Краіна ваша пустая, гарады спаленыя агнём, плады палёў вашых з'ядаюць чужынцы і ўсё апусцела, — пісаў прарок Ісайя. — Як яшчэ біць вас за ваша ўпорства" (Іс., 1:5). Калі народ пасяліўся ў Ханаане, пабудаваў прыгожыя дамы, успамін пра няволю і Божую апеку пачаў знікаць нават у старэйшых. Людзі адхіліліся ад Бога і Той дазволіў паганцам разбурыць усё пабудаванае і зняволіць народ. Калі Ізраіль канчаткова схіліўся да паганскіх ідалаў, Бог аддаў народ у рукі паганцаў-мідзян. Яны зрабілі яўрэяў жабракамі на ўласнай зямлі.

Евангельская прытча мае свае адносіны да сучаснасці. Гаспадар — гэта Бог, кліканыя госці — усе людзі, а слугі гаспадара — царкоўныя служыцелі, якія заклікаюць людзей далучыцца да хрысціянскай Царквы. З другога боку, калі хрысціяне — новы Ізраіль, ці ж не знаходзімся мы ў падобным, або нават горшым духоўным стане. Ці ж мільёны нашых сучаснікаў не ідуць сёння па слядах Ізраіля? Калі трывога, тады да Бога, аднак у часы спакою і адноснага дастатку, яны схіляюцца да ідалапаклонства.

Шукаючы вінаватых ва ўсіх нашых цяперашніх бедах, ці ж не варта было б успомніць пагаворку „за што бароліся, на тое напароліся"? Некалі пакаранне за богаадступства ізраільскага народу Бог выказаў праз прарока Іярэмію трыма словамі: „Я пакіну вас" (Іярэм., 23:33). Ці ж за апаганеныя храмы, гулагі, калектывізацыю вінаваты толькі Сталін? Яму верна памагалі мільёны камуністаў, а астатнія, бы авечкі, некрытычна ішлі за сваімі правадырамі. Нельга забываць, колькі людзей добраахвотна перлася ў камсамол, у партыю, у розныя органы, дбайна і руплiва выконваючы ўсе „адзіна слушныя лініі і загады". Мноства людзей апяразджвала адзін аднаго ў класавай барацьбе, у рэвалюцыйнай пільнасці. Калі б не змены ў вярхах, яны і сёння, не маргнуўшы вокам, услаўлялі б сваіх катаў, нічога не навучыўшыся і нічога не зразумеўшы. Ёсць пагаворка: каго Бог хоча пакараць, таму адымае розум. Плён калектыўнага шаленства аж надта выразна бачны не толькі ў матэрыяльнай галечы, але і ў духоўным спусташэнні, у развале сям'і, у жорсткасці нораваў, у абортах, якія нішто іншае, як забойствы. Вядома, што без Бога ўсё дазволена і што „Бог не бывае зняслаўлены". Мабыць, многім усе праблемы асацыююцца з нечым іншым, больш наяўным, але людзі мелі аж надта часу і доказаў, каб уцяміць, што „самі проста жнуць тое, што сеялі".

Сёння за веру ў Бога ўжо нікога не даскрымінуюць, не ссылаюць у лагеры. Аднак заклапочаныя сваімі бытавымі праблемамі людзі масава не кінуліся ў храмы. Яны, быццам запрошаныя на банкет у евангельскай прытчы, спяшаюцца „хто на поле свае, а хто да свайго гандлю". Такім чынам, мільёны людзей не ідуць ні раніцай, ні вечарам у свае цэрквы. Яны ідуць на пакланенне сваім ідалам на стадыёны, у канцэртныя залы, наваксоўваюць да бляску свае ідалы на чатырох колах. Ідалапаклонства каралася Богам ва ўсе часы. Не падлягае сумненню, што свет караецца за гэта і сёння. Падобна Ізраілю часоў Гедэона, застаецца шчыра пакаяцца і прызнаць: „Мы памыліліся, даруй нам, даруй".

**а. Канстанцін Бандарук**

# Савецкая школа і Дзяржынскі

Беларускія гісторыкі вельмі наіўныя, бо пераходзяць з аднае крайнасці ў другую і то ўмомант. Пры цвёрдым камунізме хвалілі яго аж да неба і ўсіх чырвоных нягоднікаў, якія займалі высокія пасады, прадстаўлялі як найлепшых герояў, хаця беларускасці яны ненавідзелі; сёння яны таксама не інакшыя: прыклад — Лукашэнка і яго памагатыя. Час аднак змяніўся і сёння, напрыклад, Сяргей Ёрш піша артыкул („Ніва" н-р 37) пра нейкага беларускага атамана Івана Перагуда, які так „змагаўся" за свой родны край, што нават партызаніў падчас вайны і зараз пасля яе на нашай Беласточчыне і на гэты раз ужо не ў камуністычнай арганізацыі, а ў Беларускай народнай партызанцы і толькі зрабіў для нас дабра, што нават цяжка пералічыць. Піша пра гэта і сам Іван Перагуд у сваіх успамінах. Пра гэта ўсё — артыкул С. Ёрша і „Крывавыя ўгодкі" І. Перагуда — я коратка скажу: гэта ўсё хлусня ад пачатку да канца і толькі здзіўляюся, што „Ніва" змясціла на сваіх старонках гэтае барахло. Магчымае тут толькі тое, што Іван Перагуд мог служыць у нейкім нямецкім фарміраванні, а туды дарога была шырока адкрытая.

Беларускія гісторыкі нядаўна выхвальвалі камуністычны рай, а сёння ілгуць пра нейкіх прайдзісветаў як Іван Перагуд і яму падобных. І мала таго, яны гэта ўсё хочуць запісаць у фонд нацыянальнай гісторыі, каб мы ганарыліся імі. Нядаўна ў беларускіх газетах многа пісалася пра тое, што сам Ю. Пілсудскі быў беларусам, бо нарадзіўся недзе на Віленшчыне і добра валодаў беларускай мовай (напэўна лепш ад А. Лукашэнкі — прэзідэнта Беларусі). Спачатку і я паверыў, што Пілсудскі быў беларусам. Але каб Пілсудскі сапраўды быў беларусам, дык у міжваенны перыяд стварыў бы нам нейкую шырокую аўтаномію, а, як вядома, мелі мы дулю пад сам нос. Нават тое, што мелі, мелі нелегальна, а многія шчырыя беларусы сядзелі ў турмах. Добры Сталін памяняў іх на польскіх шпіёнаў, а пасля, абазваўшы ворагамі народа, зліквідаваў і справе канец. Так што Пілсудскага нельга лічыць беларусам: такі з яго беларус, як з мяне ячурэй. А цяпер некаторыя беларускія гісторыкі стараюцца залічыць да беларусаў жалезнага Фелікса Дзяржынскага, пра што чытаем у артыкуле Яўгена Мірановіча ў 39-м нумары „Нівы". Палякі лёгка, з іроніяй, аддаюць свайго Фелікса беларусам але Пілсудскага нам не „аддаюць". Ф. Дзяржынскі не быў аднак беларусам, толькі палякам, кроў ад крыві, а беларусаў і рускіх проста не пераносіў. Хачу коратка напісаць пра змест строга нядаўна ў нас забароненай кнігі Багдана Яха-Ронікера п.з. „Дзяржынскі, чырвоны кат", выдадзенай у 1932 годзе. Калі верыць Ронікеру, ведаў ён Фелікса асабіста, бо пры цары разам сядзелі ў варшаўскай турме. Там Ронікер дапамагаў Дзяржынскаму ладзіць карэспандэнцыю з сацыялістамі, за што Дзяржынскі яму аддзячыў потым, калі быў начальнікам чэка, бо тры разы выратаваў яго ад немінучай смерці з рук сваіх падуладных.

У маладосці, калі вучыўся ў гімназіі, Фелікс быў вельмі інтэлігентным і далікатным чалавекам, спагадлівым на ўсякую крыўду. Спачатку меў нават намер вучыцца на ксяндза, а вучыўся выдатна. Захапіўся аднак рэвалюцыйнымі ідэямі, за што выкінулі яго з гімназіі. Пасля турмы і ссылкі сталі яны жыццёвай дарогай Фелікса. І хіба тады паявілася ў Фелікса лютая нянавісць да людзей і стаў ён здзічэць быццам звер. Калі стаў начальнікам чэка, распраўляўся з людзьмі як найгоршы злачынца і кат, аднак да сваіх суайчыннкаў, палякаў, адносіўся па-другому і многіх з іх выратаваў ад смерці, у тым ліку самога аўтара кніжкі. Нават сам Пілсудскі нескалі выказаўся пра Дзяржынскага: інтэлігентны чалавек, здольны, а гісторыя пасля разбярэцца ў самой справе.

Варта яшчэ прыгадаць, што Фелікс Дзяржынскі меў паэтычны талент. Вось адзін яго верш „Czy marsza mi macie grać wiecznie, kajdany?":

I pytam się słońca i pytam się ziemi,  
Gdzie droga do życia, gdzie prawo do woli?  
A wokół mnie ludzie, to głusi, to niemi,  
I tylko to dla mnie, co smuci i boli.

Kochałem poezję, nie cierpię prostoty,  
Marzenia zadały mi ciosy i rany,  
Katusze więzienne przerwały sen złoty.  
Czy marsza grać macie mi wiecznie, kajdany?

Wierzyłem w moc wyższą, nie tracąc tej wiary,  
Zwątpiłem w moc Boga i pana nad pany,  
Gdym poznał na sobie bezprawia przywary.  
Czy marsza mi macie grać wiecznie, kajdany?

Dziś nie wiem, co uśmiech, co młodość, co życie,  
Więzieniem-trawieniem zmęczony, stargany,  
I próżno chcę walczyć, chcę stanąć na szczycie...  
Czy marsza mi macie grać wiecznie, kajdany?

Świat woli nie dla mnie, nie dla mnie pęd fali,  
Dzień po dniu czas mija i goni bez zmiany,  
Za ciosem cios pada i razi, i wali...  
Czyż marsza mi macie grać wiecznie, kajdany?

Świat nie jest bałwanem bez czucia, bez duszy,  
To nie jest bezmyślny ułomek gliniany,  
Ciąg nieszczęść ludzkości tę ludzkość poruszy  
I marsza nie będą mi grały kajdany!

Прарочы, бачым, верш! І каб Фелікс свой талент прысвяціў паэзіі, быў бы з яго выдатны паэт і цэлы свет інакш гаварыў бы аб ім. Але выйшла па-другому. І цікава, каб ён пайшоў у каталіцкую семінарыю, аб чым ён першапачаткова думаў, і стаў ксяндзом: як ён служыў бы Богу і людзям? Мо быў бы другім, толькі польскім, Таркемадам...

Турмы і ссылкі зрабілі з Дзяржынскага камень, пазбаўлены людскіх пачуццяў. Бальшавікі зрабілі з яго свайго героя і бога. Цікава толькі, які лёс спаткаў бы Фелікса, калі б дажыў ён да трыццатых гадоў, калі Сталін праводзіў свае чысткі. Думаю, што Дзяржынскі пайшоў бы тым самым шляхам, якім пайшлі яго вучні: Ягада, Яжоў, Смірноў і многія іншыя: быў бы не героем, толькі ворагам народа. Выратавала яго ад гэтага ранейшая смерць.

**Мікалай Панфілюк**

З былога

# Бандыты лепшыя

Гэтую гісторыю я чула ад адной жанчыны яшчэ ў маленстве, а ёй расказалі яе ў бежанстве. Здарылася гэта ў Расіі. У губернскім горадзе жыла багатая сям'я Шапавалавых, якая мела толькі адно дзіця — дачку. Калі вырасла яна на дзеўку, пачаў да яе залятацца капітан, Аляксей Іваноў. Ужо назначаны быў дзень вяселля — другая нядзеля верасня. Заручыліся на запустах перад Вялікім постам. Малады, прыстойны капітан штотыдзень запрашаў даму свайго сэрца ў тэатр, адводзіў яе дамоў у адпаведную гадзіну, — праводзіў яе толькі да брамы. Паколькі паненка пачала вяртацца намнога пазней, чым канчаўся спектакль, яе бацькі рашылі, што жаніх паводзіць сябе непрыстойна.

Аднойчы капітан наведаў бацькоў дзяўчыны, і яны строга запыталі, чаму ходзіць з іхняй дачкой па начах, замест прыводзіць яе ў час.

— Мы вам верылі, што апякуецеся адпаведна нашай дачкой, Аляксей Іванавіч, але нашы адносіны могуць папсавацца, калі пачынаеце сябе паводзіць непрыстойна, — сказаў бацька. — Наша ўся маёмасць будзе ваша, аддамо ўсё вам і адзінай нашай дачцэ, таму і глядзім, каму перадаць нажытае намі і нашымі дзядамі багацце. Калі вы будзеце так далей сябе паводзіць, адкажам вам рукі сваёй дачкі.

— Вы памыляецеся, шаноўны Васіль Іванавіч! — усхваляваўся капітан. — Мае адносіны да Алены Васільеўны вельмі шчырыя і поўныя павагі. Я не мог бы яе імя паддаць шкодзе. Праводжу яе пад сам дом, і яна ідзе адразу на пакоі.

Трэба праверыць, куды прападае каханая. Правёўшы Алену Васільеўну з тэатра пад самую браму камяніцы, Аляксей „пайшоў". Схаваўшыся за парканам, сачыў, куды пайшла нарачоная, а пасля рушыў яе следам. Дайшлі да невялікага доміка. Дзяўчына два разы пастукала ў дзверы, ёй адчынілі, засунулі засаўку. Капітан падышоў да акна, прыслухаўся. Тое, што пачуў, пераняло яго да касцей.

Алена Васільеўна была каханкай атамана бандытаў! І ён яе кахае, хочуць разам з'ехаць у Амерыку. Але грошай у іх мала, бо трэба здабычай дзяліцца з усёй бандай. Неабходна ўзяць усё багацце Васіля Іванавіча, зажытачнага купца. Вядома, бацька гэтага так не аддасць, прыйдзецца ўчыніць „мокрую работу". Калі трэба забіць, — будуць страляць ды рэзаць. Алена выйдзе ўвечары ў двор, калі старыя паснуць, свісне тры разы. Калі забяруць усё, што варта, падпаляць дом. Следу не будзе. А маладыя паплывуць у Амерыку. Ніхто і ведаць не будзе, згарэла Алена разам з бацькамі ці не, і шукаць яе не будуць...

Капітан акасцянеў ад жаху. Ачуняўшы, пабег да Васілія Іванавіча, хутчэй расказаць пра пачутае.

Шапавалавы адразу думалі дачку выгнаць з дому, але Аляксей Іванавіч растлумачыў, каб не хваляваліся і ўключыліся ў аблаву на бандытаў, пакуль што не падаючы від. Паінфармавалі паліцыю.

Паліцыя абложыла дом. Калі Алена ноччу дала знак бандытам, тыя спакойна ўвайшлі ў двор, і як авечкі даліся палавіць.

Суд адбыўся праз месяц. Шапавалавы адракліся ад дачкі і без шкадавання аддалі яе на катаргу. Усю маёмасць перапісалі на капітана, Аляксея Іванавіча Іванова, які стаў ім прыёмным сынам.

**Аўрора**

# Радзіма —Родзіна

**Частка XXXVI**

Разважанні майго бацькі вельмі часта датычылі навізны ў вясковым жыцці. Праявы навізны, у залежнасці ад іх характару, выклікалі асуджэнне з яго боку, або гарачае адабрэнне. У суме аднак бацька лічыў, што мадэрнізацыя жыцця вядзе да павольнага забівання беларускасці ў нашых вёсках:

„Хацеў бы я табе сказаці, што ні ўсё новэ, што прыходзіт у нашэ жыце, то добрэ, але і ні ўсё кепскє. Я ўжэ табе гаварыў, як Васіль Пуня, пабыўшы ў немца, навучыў нас класці капіцы віламі. Ну, але ты вазьмі і глянь на многіх тых дзяўчат, што выехалі ў гарады і ў нідзелю прыезджают у вёску. Губы памалёваны, шчокі напудраны, пазуры пакрашаны. Пачці што кажда смаліт папяросы. Ні адна ні ўмеее выдаіць каровы, у поле чы на лонку яе вяроўкаю ні зацягнеш. Усе па-польску рэжут, ну то як можно хваліці такую навізну? Але многе новэ то вельмі радаснэ. Ты помніш, як мы па вайне ездзілі дзеравяным возам? От яшчэ і да сегодне осі і калёса ад дзеравяка стаят у шопцы. Ну а после то ўжэ переселі на жэлезнякі і здавалаcё, што ужэ нічого лепшаго і ні можэ быці на свеці. Аж тут раптам па вайне Лэкаш, гандляр конямі з Юшкавага Груда прывёз да бандарскаго каваля каваці гумоваго воза. Прывалок калёса ад грузавіка і зваліў каля кузні. Ну то старые бандарцы як даведаліcе, то ўсе прыбеглі пад кузню і давай паднімаці гэты калёса. Ценжар такого калеса страшны! Ну то ўсе дашлі да вываду, што Лэкаш здурэў, што ніякі конь такого воза ні пацягне. Ну і калі ўжэ ўрэшце каваль укаваў воза і меўсе прыехаць Лэкаш, каб яго забраці, то збегліcе ўсе старыя з вёскі. Так чалавек семнаццаць. Збегліcе таксама дзеці і ўсе ждалі, як гэто Лэкаш будзе катаваці каня, бо конь у ніякім разе такого воза ні пацягне. А знаеш што сталасё? Запрог Лэкаш каня ў гэты гумовы воз і даў каманду, каб усе хто забраўся сядалі на воз. Залезло людзей пятнаццаць і куча дзяцей. Як сядалі, то ўсе вельмі моцна рагаталі з дурноты Лэкаша. А той ускочыў на воз, махнуў бічом і конь як чорт перад хмараю віхром пагнаўся. Завёз Лэкаш усіх аж за Багнюкі, а цэлы час пер галопам і там крыкнуў:

— Ну, хто дурны, я чы вы? І ўсіх спер з воза. Значыцца, як кару за тое, што з яго рагаталі. А сегодне што ест? У Бандарах німа ні аднаго жэлезняка, ва ўсіх толькі балёны. От бачыш, якая добра навізна!

Я ўжэ табе гаварыў, што дзесь так у 1912 року то мы тут заварушыліcе, каб ехаці ў Амерыку. Але аказаласё, што трэбо было б прадаць многа кароў, каб выручыці грошы на дарогу караблём. А дзе было ўзяці тых кароў, калі ўсе гаспадары мелі па адной, а мой бацька то па дзве каровы. Ну, і ніхто ад нас ні паехаў. Ні паехаў таксамо і я. От, я часам сабе думаю чы добрэ, што я ні паехаў у Амерыку, чы кепско. Мне то здаецца, што добрэ. Бо ты мне скажы, нашто мне патрэбна тая Амерыка? А чы я той Амерыцы патрэбны? Я думаю, што ні патрэбны. Ну можэ я там жыў бы і лепш чым тут і можэ ні хлябнуў бы той бяды, што хлябнуў і ў царскай арміі, і ў час акцябрскай рэвалюцыі, і ў санацыйнай Польшчы. Але ўсё-такі пачці што ўсё жыце пражыў на роднай зямлі, у сваёй родзіні, значыцца. А чы ж гэто ні велікє дзело, ні шчасце?

Я табе скажу, што наша родзіна хароша. Тож у нас німа пустыняў, німа гораў, німа паводзяў, німа дзікіх бураноў, німа землятрасенняў. А от, што німа мора, то гэто ні добрэ, бо морэ каждаму народаві патрэбнэ. Але ўсё ж такі характва ў нас вельмі многа. Праўда, парадку ніколі тут добраго ні было, але гэто ўжэ другое дзело. Я то цешусе, што якраз тут давялосе мне жыці і што тут прыйдзецца памерці, а ні дзесь у чужой родзіні.

Я то часом вельмі ўдзіўляюсе, чом ты мане і другіх старых пра ўсё пытаеш: як было і што было і што мы думаем. Мы ж усе ужэ адною нагою ў магілі. Ты маладых пытай, гэто яны будут тут гаспадарыці. Ніхай яны табе гаворат аб тым, як думают жыці, каб у нашуй родзіні было ўсё добрэ. Ну, але раз ты пытаеш усё старых, то значыт, што табе гэтэ ўсё нашто сь там патрэбнэ. А раз патрэбнэ, то я табе тое-сёе нагаварыў".

**Алесь Барскі**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Міленькі Астроне! Такі ўжо страшны сон мне прысніўся, што проста баюся ў цябе і пытацца. Бачу сваю дачку. Не ведаю, ці гэта мост, але яна стаіць на фоне балюстрады. Раптам падбягае да яе дзяўчынка — цыганка і зрывае з маёй дачкі нейкую біжутэрыю. Ї ўцякае. Мы з дачкой пагналіся за ёю. Я яе дагнала і адабрала тыя ўпрыгожанні. Тады хапаю цыганачку за ногі і пачынаю ёю біць, быццам нейкай лялькай, аб зямлю. Раптам чую, што трэснула яе галава. Дык я, далей трымаючы яе за ногі, выкідаю цела ў ваду за балюстраду.

І вось я ўжо сяджу ў нейкім бары. У левай і правай кішэні маёй курткі я трымаю грошы. Іх няшмат, але я за іх вельмі баюся, каб не ўкралі. Чалавек, які сядзеў у бары непадалёку ад мяне, украў мае грошы. Я кажу: „Як вы можаце так рабіць? Аддайце мне мае грошы!" А ён вымае са сваёй кішэні жменю альюмініевых манет і кажа: „Калі хочаце, магу вам даць гэта!"

Я не хацела. Праз нейкі час у маіх кішэнях ізноў паявіліся грошы. Аднак жа ізноў нехта ў мяне іх украў. Я ў чужым горадзе. Хачу ехаць дахаты. Шукаю вакзал. Бачу мой цягнік, але ўвайшлі мы з дачкой у яго і чамусьці выйшлі.

Кепскі сон, праўда, Астроне?

Ірэна

Ірэна! Так, сон кепскі. Падсцерагае цябе небяспека, будзе страта, варожасць. За гэта гаворыць тое, што вас увесь час абкрадалі. Усё вынікне з-за нейкай фальшывай асобы (цыганка), а тое, што ты яе біла, а мо і забіла, абазначае непрыемнасць. Ды і цягнік прадвяшчае сум і нешта нядобрае.

А мо табе проста так снілася на перамену надвор'я, якое ў апошні час было надта зменнае.

Астрон

## Пад якім сузор'ем

**КАЗЯРОГ, 23 снежня — 20 студзеня.** Мужчына пераважна дабіваецца таго, да чаго імкнуўся, хоць не заўсёды адразу. Параўнаўча мала робіць жыццёвых памылак. Добра сужываецца з людзьмі з-пад знака Дзевы і Рака, горш — з-пад знака Вагі і Барана.

Жанчына, народжаная пад знакам Казярога, сур'ёзная, прадбачлівая, гаспадарная і вытрыманая. Нярэдка скупая. Нічога не забывае і нічога не даруе. Высока цэніць грошы. Умее быць вострай на язык, асуджае востра і бязлітасна.

Гэта асоба эксцэнтрычная з павышаным пачуццём уласнай годнасці. Шчаслівы дзень — субота, месяц — ліпень, колер — зялёны, каштоўны камень — гранат, кветка — стакротка, маргарытка.

(яц)

## Хачу камедыю!

Маю вялікую прэтэнзію да Міры Лукшы. Як можа такі дасціпны і вясёлы чалавек паказваць у сваіх творах такі чорны вобраз жыцця! Адна смерць, чартоўская гарэлка, здзірванелыя палоскі, дурная нянавісць аж да касцявога мозгу, беспрасветная цемра разгубленай і самотнай душы на ростанях... Адно нешчаслівыя людзі. Праміnanне. Нават калі прыгожая дзеўка і юрлівы малады працаўнік анімацыі культуры зачыняюцца ў астылым доме культуры ў падбеластоцкім мястэчку, не пра каханне яны гамоняць, а пра смерць... ідэі, а найважнейшае пачынаецца за апошняй кропкай, і ўяўляй сабе, чытач, што там мае далей быць! А хай бы напісала пра шчаслівых і вясёлых беларусаў! Ну? Не хоча? Не ўмее? Не бачыла такіх? А можа не падыходзіць ёй гэта да канцэпцыі — літаратурнай ці светабачання? Пісалі пра яе ў Беларусі, што Міра паявіла дэкадэнцкую плынь беларускай літаратуры зыходу нашага стагоддзя, і гэтыя ўсе жахі — праяўленне і адкрыццё душы сучаснага беларуса. Але!

Мірачка! Што ты робіш!? Нашто дэкадэнцтва, чорныя роздумы, нашто вярэдзіць сабе душу і рэзаць па сэрцы іншым, якім і так тыя стрэмкі ў сэрцах ныюць! Я ведаю, як гэта ёсць, які вялікі ў нядолі „просты" чалавек, якім цяжарам наш маленькі і айчынны боль, але годзе плакаць! **Я хачу камедыю!**

Ах, памятаю, калісь Міра пісала і сатыру. Думаў я, назіраючы за яе творчасцю практычна ад яе маленства, бо пачала друкавацца ў нас яшчэ ў пачатковай школе, — вырасце з яе хтосьці, хто будзе рассмяшаць Чытача. Развесяляць яго, падбадзёрваць, даваць прыклад барацьбы з бядою смехам. Але і тое Мірына не было смешнае — чытаеш, усміхаешся, нават зарагочаш, а потым табе так сумна зробіцца...

Эх, дачакацца мне, старому, вясёлых і абсалютна бяссэнсных забаўляльных тэкстаў! Пра краіну шчаслівых людзей, якім пагражае доўгае, вясёлае вечнае жыццё.

Вандал Арлянскі

## Вясёлае жыццё маляра Васі

У панядзелак маляваў — паставілі пляшку.
У аўторак шкадаваў — хвалілі Малашку.
У сераду малаціў жыта у Ганулькі.
Цётка ставіла на стол, выпілі грамульку.
У чацвер пайшоў наведаць бязрукую Маню —
Там пры келіху віна ўспаміналі Таню.
У пятніцу калегі ў садок запрасілі,
„Маем крышку „Раялку" — ветліва манілі...
У суботу з'ездзіў у Б. У торбу многа загарнуў: —
Віно, „віскі", піва, папяросы...
Хопіць месяц... І тут Вася прыгануў:
Паслязаўтра вось зіма, а я ж яшчэ босы...

Мар'я Пень



Каляндар прыроды

## Яшчэ раз снежань...

Надышла зіма. Снег то падае, то зноў знікае. Рэдка ў прасветах воблачнасці блісне ясны блакіт, часцей шэрая імгла ахутвае ўсё неба.

Жыхары лесу жывуць сваім спосабам. Кабан у лесе шукае самак. Наступае перыяд спаравання, перыяд боек паміж самцамі-секачамі. К гэтаму часу ўздоўж спіны і па баках цела ў секачоў скура робіцца таўсцейшая. Гэта своеасаблівая „браня" абараняе ад глыбокіх раненняў клыкамі, што наносяць саапернікі адзін аднаму ў час боек. Старыя самцы адганяюць маладых кабанчыкаў і пачынаюць самі „заляцацца" да самак. З сапернікамі, якія набліжаюцца да статка, уступаюць у лютую бойку, збіваюць з ног адзін аднаго і страшэннымі клыкамі распорваюць, як нажамі, жывот праціўніка.

Алені і дзікія козы зімою збіраюцца ў вялікія статкі па 10—12 штук рознага полу і ўзросту. У гурце лягчэй заўважыць набліжэнне ворага.

*(а—яц)*

## СВЯТОЧНЫ КАСЯК

**Направа:** 1. горад распусты знішчаны разам з Садомам, 2. горад на Кіпры, 4. авечае малое ласкава, 6. турма, 7. залацісты напітак, 8. раслінны арнамент, 10. грэчаская літара, 13. слаўная евангельская пропаведзь, 14. пахвальны царкоўны спеў, 16. прымета, 17. выпускнік вышэйшага мусульманскага вучылішча, 19. Анатоль, сучасны беларускі паэт, 20. нумар твора кампазітара.

**Налева:** 1. біблейскі волат, 3. парода авечак, 5. сэрцавіна атамнай электрастанцыі, 6. фінікійская багіня ўраджаю, 7. горад на захадзе Суматры, 9. панегірык святому, 11. лацінскі пераклад Бібліі св. Іераніма, 12. італьянская камічная опера XVIII ст., 15. трырадковыя строфы (мн. л.), 16. горад блізу Венецыі, 554—1751 — сядзіба патрыярхата, 18. асірыйскі бог вайны, 19. лік, 21. сталіца Паўднёвай Карэі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 45 н-ра:**

**Гарызантальна:** Осла, Нарач, Брагін, Каір, самум, амонім, кавардак, кагал, кіраўнік, маладзік, Ушача, „Лявоніха", гуляка, асака, ліпа, восень, тайга, СССР.

**Вертыкальна:** барада, зарука, Славацкі, абрад, замок, Сібір, маладняк, маладуха, кума, Галя, Анна, Акра, іканапіс, шастак, Чыкага, гудок, лямеш, вальс.

Кніжную ўзнагароду высылаем Лукашу Пацэвічу з Беластока.

**МІНІ-ДАВЕДНІК**

улем — мусульманскі грамацей.

Новыя вершы

## Лес, варт ты славы

Лес, варт ты славы,
Магутны і ласкавы.
Заўсёды шуміш,
Ніколі не спіш.
Гутарку вядзеш і то як!
Верны, найлепшы сваяк,
Як цябе зразумець?
Пашану і любоў трэба мець,
Лес шанаваць,
Строга яго пільнаваць
Ад агню, зладзеяў, паразітаў,
Што цягне іх у лес як магнітам,
Парадак, чысціню ў ім трымаць,
А як трэба, дык і ахову даць;
Лес багата аддзячыць.
Для нас гэта значыць
Што больш кісларода ён дасць,
Чыстае паветра, смалу і розную масць.
Для нашых крылатых сяброў
А таксама звяроў —
Найлепшае прыстанішча і дом,
Дае ім падтрымку і корм.
Лес шуміць таямніча,
Да сябе ён усіх кліча.
Хто яго шануе і любіць,
Таго і лес прыгалубіць.
Лес дае ягады, грыбы,
Палечыць, калі ты слабы;
Ён санаторый і шпіталь
І духоўны ліхтар.

Мікалай Панфілюк

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 20 lutego 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## СЕНТЭНЦЫЇ

Не вучы святара „Ойча наш".

*

Адлятае птушка — прастор мутнее.

*

Шчаслівым і ноччу свеціць сонца.

*

На базары і чорт трымаецца
за кішэню.

*

У самоце час бяскрылы,
а прастора цесна.

**Барыс Руско**

## СТОЙКІ НАРОД

Вельмі стойкі народ
Беларускі,
Калі п'е столькі год
Без закускі...

**Анатоль Зэкаў**

## НІЎКА

Мал. А. Гурскага

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

### "Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Маладое сужонства атрымала кватэру.

— Мама дасць нам кухонную мэблю, стол, крэслы, канапу і абраз, які табе так спадабаўся.

— А як мы ёй аддзячым?

— Дамо Петруся на выхаванне.

* * *

Жонка да мужа:

— Што хочаш, каб я табе падаравала на імяніны?

— Мінуту маўчання.

* * *

Дырэктар уваходзіць у прыёмную і бачыць, як адзін з яго падуладных цалуе сакратарку.

— Ці я вам за гэта плачу? — пытае.

— А я гэта раблю бясплатна, дзеля прыемнасці.

* * *

— Ці ты сапраўды пакончыш самагубствам, калі я цябе пакіну?

— Напэўна: заўсёды так раблю.

* * *

Размаўляюць дзве сяброўкі:

— Скажы мне, як гэта ў цябе ў сапраўднасці: ты заручана з пекарам, а я часта бачу цябе з мяснікам...

— Ну што ж, не адным хлебам чалавек жыве.

* * *

Жонка да мужа, які вяртаецца на досвітку дадому:

— Не маеш нада мною літасці — цэлую ноч нават не здрамнула.

— Не жалься над сабою, я таксама цэлую ноч не спаў.

* * *

— Мусіш мне купіць новы капялюш, — гаворыць жонка мужу. — Калі хаджу ў гэтым старым, суседзі напэўна думаюць, што я працую кухаркай.

— Запрасі іх да сябе на абед і тады перастануць так думаць.

* * *

Пажылы мужчына дараджвае маладажону:

— Заўсёды вер сваёй жонцы і ніколі яе не кантралюй.

— А чаму не кантраляваць?

— Каб магчы надалей верыць.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Я да цябе ў справе сексуальнай асветы ў школах. Не ведаю, як у іх там на Захадзе — мы ж ад іх пераймаем усё, што моднае, — але ў нас гэтая „асвета" ўваходзіць з вялікімі цяжкасцямі.

Пішу табе як маці адзінаццацігадовай дачушкі, паводзіны якой мне ў апошні час не даюць спакою.

Было дзіця як дзіця, мілае, паслухмянае, гуляла з дзецьмі, добра вучылася. У мінулым годзе, калі яна была ў чацвёртым класе, даведалася пра ўвесь сексуальны „механізм" ад настаўніцы і прачытала пасля ў падручніку. Да гэтай справы падышла яна вельмі сур'ёзна, чытала дома, паказвала мне, расказвала. Пачала адчуваць сябе амаль дарослай.

Я думала, што дзесяцігадоваму дзіцяці такія рэчы пазнаваць было зарана, але ж са школьнай праграмай дыскутаваць не будзеш. У нейкім моманце мне нават палягчэла: цяпер ужо я не мушу тлумачыць. Не ведала я тады, як усё гэта будзе выглядаць.

Праз нейкі час я заўважыла, што мая дачка ходзіць нейкая ўзбуджаная, задае ўсё больш пытанняў, бясконца падражае фільмовым сцэнкам. То высуне язык на паўметра і лезе цалавацца да мяне ці да бацькі. То кладзецца на кагосьці з нас і пачынае маніпуляваць сваім целам. Ну, проста, як кажуць, робіць цырк з усяго таго, аб чым даведалася ў школе ў мінулым годзе.

А калісь падышла да бацькі і кажа: „Дзякуй табе, татка, што ты мяне *запланаваў*!". Так проста, пры людзях, калі мы былі на нейкай урачыстасці ў рэстаране. Я пачала смяяцца.

Сама ўжо не ведаю: смяяцца ці плакаць. Мо ўсё гэта з часам ёй пройдзе. Тое захапленне самой сабою, што яна ўжо ведае. А гэта ў яе паняцці абазначае сталасць.

А вось нядаўна ў мяне дык і рукі апусціліся, калі расказала яна, што робіцца ў іх у школе. Усе размовы канцэнтруюцца на сексе. Адна дзяўчынка панапіхала сабе ў штонікі падкладаў і хвалілася ўсім, што яна дарослая, хаця далёка ёй яшчэ да менструацыі. Хлопцы ходзяць гуськом і „папіхваюць" адзін другога (малая паказала, як яны гэта робяць), або „нацягваюць" на сябе дзяўчыну (малая ізноў прадэманстравала гэты занятак).

Я ледзь не самлела, калі яна расказала мне, што адна дзяўчынка пайшла з хлопцам у школьны туалет і там яны якраз рабілі „тое самае".

Божа! Ці настаўнікі настолькі занятыя працай і ўласнымі, сямейнымі праблемамі, што нічога гэтага не бачаць?! Чалавек аддае дзіця ў школу, не думаючы, што можа сустрэць яго крыўда такога роду. Гэта ж школа, а не публічны дом! А тут можа здарыцца ўсякае: гэта ж яшчэ малышы!

Ну і што тут зробіш, калі праграму ў школе зрабілі такой сучаснай. Можа там на Захадзе ўжо да гэтага прывыклі ды маюць спецыяльныя метады. А ў нас...

Сорамна пісаць пра гэта, але не магу ўстрымацца. Ці ж нельга было б крыху ашчадзіць гэтых дзяцей, каб пабылі яны яшчэ крыху дзецьмі... Можна ж было пачаць сексуальнае выхаванне ў ліцэі, а не ў чацвёртым класе падставоўкі.

А якая ж пры гэтым павінна быць адказнасць настаўнікаў?! Гэта ж ім мы давяраем нашых малышоў, а здарыцца можа ўсякае.

Скажы, ці маю я рацыю, калі спадзяюся ад настаўнікаў большай увагі да нашых дзетак?

**Антаніна**

Антаніна! Згаджаюся з табою. Калі мы ўжо не хочам адставаць ад Захаду, дык трэба прынамсі разумна ўводзіць у школу іхнія навінкі. Беручы пад увагу ўсе паслядоўнасці не ў пору разбуджаных дзяцей, маем права спадзявацца большага заангажавання настаўнікаў у гэту справу.

**Сэрцайка**

*Сцяпан Абух*

## З запісаў нацыяналіста

### 20. Зона

Ці ведаеце тую сумную гісторыю пра Лёліка Назарэза, якому захацелася аднаго разу пажартаваць з Зоны, а жартачкі гэтыя чуць не абярнуліся ў ягоную публічную кастрацыю? Калі не, дык адразу папярэджу — у Зоне нельга нікому ніколі з нікога ў ніякім разе жартаваць. Да слова кажучы, няма тут пачуцця гумару. Ціііііі... Ні слова болей. Я і так выявіў вам найвялікшую тайну Зоны.

Лёлік Назарэз нагадвае крышку фрanта, які некрытычна верыць у свабоду слова і сумлення ў Зоне. Меркаванне ягонае, папраўдзе, небяспадстаўнае. У Зоне фактычна кожны гаворыць што хоча, дзе хоча, каму хоча ды як хоча. У выніку такога стану Зона з'яўляецца месцам бесперапыннай дракі, паклёпу, узаемнай падазронасці за ўчыненыя справы і справы верагодныя. Заўсёдная набздычанасць, пагардлівая вышэйшасць, мат, анафема — гэта звычайныя сродкі зонаўскай дыялектыкі. Не кожнаму дадзена так жыць, але і не кожнаму пад сілу такое жыццё. Лёлік Назарэз аказаўся не абы-якім адшчапенцам, калі спрабаваў глянуць на зонаўскую рэальнасць праз акуляры гумару. А гумар у Зоне мае адметны, нідзе не сустраканы, характар. Усе яго разумеюць, калі не датычыць ён нікога ў прыватнасці.

Зонаўскае Таварыства „Давайце падзейнічаем" узнікла, як падказвае яго назва, дзеля дзейнасці. Трэба тут разумець, што „дзейнасць" у Зоне з'яўляецца найвялікшай каштоўнасцю — каштоўнасцю самой у сабе. Дзейнасць гэта таксама найлепшы рэцэпт на тое, як пражыць сваё жыццё ў Зоне. Таварыства „Давайце падзейнічаем" аказалася найлепшым майстрам у дасканаленні дзейнасці, якую разумеем як пэўную недасяжную абстрактную ідэю чалавечага дзеяння. Дзейнасць Таварыства „Давайце падзейнічаем" дасягнула вышыняў элітарнасці — мела яна абсалютна засакрэчаны і непранікнёны характар.

Непранікнёнасць і засакрэчанасць Таварыства „Давайце падзейнічаем" адбівала ў Назарэза сон. Спараджала ў ягонай галаве найдзіўнейшыя міфы. Раз яму здавалася, што дзейнікі Таварыства „Давайце падзейнічаем" звычайна п'янствуюць, а іншым разам, быццам займаюцца яны праніклым з Замбара ў Зону культам вуду.

— Чорная магія ці не, — наважыўся Назарэз, — а высвятленне патрэбнае.

З некаторай дрыготкасцю ў сэрцы Лёлік Назарэз падаўся на адно з нешматлікіх адкрытых для публікі зборышчаў Таварыства „Давайце падзейнічаем" — фестываль „Асенні дэнс-каданс". Артысты, што прыехалі на фестываль, падзяліліся на дзве катэгорыі: зонаўскія пачаткоўцы і замбарскія мяўкалы. Пачаткоўцы спявалі па-беларуску, а мяўкалы мяўкалі на трэйшан інгліш.

Лёлік Назарэз раздвоіўся: адна палова пазірала на мастацтва фестывалю, а другая намагалася пранікнуць у тайну Таварыства „Давайце падзейнічаем". Назарэз, хоць і не курыў, выйшаў з залы на калідор і разгледзеўся. У другім яго канцы Назарэзу замроіўся Сімпсан Бульдозер, але зараз ягоную ўвагу адцягнула цалкам іншая справа. Знадворку ўвайшоў нейкі асобень з аголенаю да шкуры галавою. Быў курдупляваты на від і да таго касавокі.

— Hryemps bulla khrantt? — правакацыйна запытаў ён па-любагорску, але з-за касавокасці курдупля Назарэз не здагадаўся ці пытанне было накіраванае да яго.

Лёлік агледзеўся і ўбачыў, што зараз за ім стаіць Бульдозер і напорыста глядзіць на курдупля. Яшчэ ззаду даходзіў Шмайсар Гаргара, які як адзіны ў Таварыстве мог раўняцца з Сімпсанам самавітасцю сваёй постаці.

— Фак-ю! — адказаў на трэйшан інгліш Сімпсан...

... *і ў гэты момант,* — напісаў пазней у „Гонях" Назарэз, — *усчаўся страшны і крывавы бой. У падтрымку гэтаму першаму ў будынак уварвалася яшчэ пяць падобных яму асобеняў. Зямля дрыжэла ды адчувалася, што ледзь-ледзь і расступіцца. Таварыства адну за адной кідала ў бой свае элітарныя харугвы, але яны падалі або адступаліся пад напорам гатовых на ўсё любагорскіх захопнікаў. Любагорцы, хоць і мелася ў іх руках цяжкая зброя, звычайна клеілі па мухаедах свайго працўніка. А калі апошні дзейнік гераічна зваліўся і дагараў на зямлі ў невыказных енках, акрываўленыя захопнікі замест, правам пераможцы, аблупіць усё багацце і згвалтаваць аўдавелыя жанчыны — спакойна пакінулі поле бою і неразраджаны прыпас крыважэрнасці спажылі ў яшчэ страшнейшай бітве паміж сабою...*

... *у ноч тае крывавай расправы,* — напісаў у заключэнні Назарэз, — *зарадзілася цалкам новая ідэя: перайменаваць Таварыства „Давайце падзейнічаем" на „Давайма ходу"*.

Лёлік Назарэз вельмі доўга хіхікаў узрадаваны такім, як яму здавалася, жартоўным вобразам Таварыства „Давайце падзейнічаем". Катастрофа была непазбежнай, а Назарэз меў у сабе асаблівы магніт, які прыцягваў да яго ўсякую дэструкцыю, афёру і феерыю. Пачалася феерыя ад апратэставання напісанага Назарэзам:

ХЛУСНЯ І ПАЛІТЫЧНАЯ МАНІПУЛЯЦЫЯ!

А быў гэта толькі пачатак:

РАЗБІВАННЕ ЕДНАСЦІ ЗОНЫ!

А калі ўжо нехта еднасці не хоча, дык:

„ДАВАЙЦЕ ПАДЗЕЙНІЧАЕМ" ВЫСТУПАЕ З ЗОНЫ!

Наканец трэба яшчэ завяршыць суд над вінаўнікам:

ПАВЕСІЦЬ І РАССТРАЛЯЦЬ!
КОЛАМ ПАЛАМАЦЬ!
ЗАМУЧЫЦЬ ЖАЛЕЗНАЙ ДЗЕВАЙ!
РАСЦЯГНУЦЬ КОНЬМІ, А СЦЕРВА КІНУЦЬ САБАКАМ!

Істэрыка, але Зона ёсць Зона. Іначай не ўмеем...